№ 2-3. Красавік—Травень. 1922 Год I.

## ШТОМЕСЯЧНІК БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА




ВІЛЬНЯ, ДРУКАРНЯ „ДРУК" СУБАЧ 2.

# ЗЬМЕСТ.



---

*Цана 200 марок.*

def.: 19, 20 – išplėšta
18 išpiauta.

# НАШ ШЛЯХ

**№ 2—3, год 1.**
**Красавік—Травень.**


*
* *

*Да працы, гэй браты! Мы туманы разьвеем...*
*Бо як у пяленках у іх наш сумны край ляжыць*
*Каханьнем маладым мы дух яго сагрэем —*
*Нізіны кіне ен і вышэй узьляціць.*

*Канстанцыя Буйло.*

# АД РЭДАКЦЫІ.

Як толькі вышаў № 1 нашай часопісі, то мы сустрэліся з досыць непрыхільнай крытыкай—(„Бел. Звон" № 11.).

Мусім сказаць што да хронікі і інфармацыі; нас не так цікавіць жыцьцё Віленскага Унівэрсытэту, дзеля простай прычыны што цэнтрам палітычнай і навуковай думкі зьяўляецца Менск, інфармацыі аб каторым мы дасталі крыху пазьней, так што у № 1 не маглі быць надрукаваны. Што да Віленскага Унівэрсытэту, то грамадзянства больш менш паінфармована і знае што робяць студэнты у Вільні, але з гэтага нумару пастараемся здаволіць шырэйшыя кругі.

Справаздача аб студэнцкім вечары, Пакуцкага, была уважана за артыкул і дзеля гэтага ні трафіла у хроніку. Што тычыцца артыкулу, „родная мова — скарб народу" то рэдакцыя зусім згаджаецца з адказам даным у „Вольнай Трыбуне" Ф. М.

№ 2 і 3 выдаем падвойны, дзеля прычын ад нас не залежных. Ад гэтага часу „Наш Шлях" будзе акуратна і ўжо з ілюстрацыямі што месяц выходзіць каля 15 чысла, летнія намяры будуць значна меньшымі, дзеля выезду значнай часткі супрацоўнікоў з Вільні. Плату не падносім, спадзеваючыся, што старэйшае грамадзянства падтрымае і паможа нам, як маральна так і матэр'яльна у нашай працы.

Што тычыцца закідаў нашых калегаў Палякоў, дзеля выдаваньня часопісі „расейскімі" літэрамі, то мусім сказаць, што выдаем кірыліцай, старым беларускім шрыфтам, апроч таго большасьць Беларусаў праваслаўныя, у каторых кіріліца больш папулярная, а для сярэдняй інтэлігэнцыі нат больш зразумелая. З другога боку кірыліца зьяўляецца ўжо, хоць часова, але афіцыяльным беларускім шрыфтам.

Урэшці зьвяртаемся з гарачым прызывам да ўсіх калегаў, як у краі, так і заграніцай, каб прысылалі нам як можна больш інфармацыяў аб жыцьці і працы беларускай.

# Наш Шлях.

Ад векаў людзі ідуць па нейкаму шляху, ад векаў ідуць уперад. І пытаньне „шляху" людзскога займала і займаецць шмат часу і энергіі у людзей, каторыя пастанавілі знайсьці ў гэнам шляху душу і знайсьці яго сапраўдны воблік, знайсьці тыя сьцежкі, с каторых складаецца гэны шлях.

Большаю часьцю, ў жыцьці штодзенным грамадзянства, шлях гэны прыймаецца ад старшага пакаленьня бяз ніякіх пытаньняў, як бы верылася ў тое, што сапраўды так, як жылі бацькі нашыя, было найлепш, а мо нат, што шлях нам даў хтосьці такі, хто стаіць здалёк ад нас, і што насупроціў гэтага мы нічога ня зробім, а нат і не павінны рабіць.

Бываюць ўсёж пэўныя мамэнты ў жыцьці сьвету, калі парадак істнаваўшы да нейкае пары — сам ломіцца і гіне і ствараюцца зусім новыя абставіны і што гэтыя абставіны павінны ўжо быць папярэджаны тымі вехамі, паводлуг ка-



торых маець паліцца жыцьцё. Людзі, занятые сваімі штодзеннымі справамі, забыліся аб той максыме, каторую цьвёрда памятаваць павінны, што жывем мы у таком часі, калі цэлая гісторыя робіцца не адзінкамі, што не „Промэтэі“ здымаюць агонь з неба для нас і дзеля нас, а што мы самі ўсё павінны рабіць, думаць аба ўсём.

Здавалася-б, што да гэтае пары было мо і так, што гісторыю рабіяі адзінкі, або яна мо і сама рабілася.... І толькі ў апошнія 100, 200 гадоў пачынаем бачыць іншае зьявішча, што ў галоўныя мамэнты голас масы, яе думка пераважае і робіцца так, як яна хоча. І часамі, калі гэта думка нявыразна мо яшчэ істнуець у масах, калі яна яшчэ ня была перажыта усімі, ўсёж „вялікія“ розныя людзі пачынаюць з ею рахавацца, бо тыя, што сгаяць на самым верху і не заплюшчваюць вачэй, бачаць і ў гэтай „нявыразнасьці“, такую аграмадную сілу, каторая можэць перавярнуць стары, дрэнны парадак.

Наш век адну памятку добрую пакінець па сабе, што як раз у ём атрымаў аканчальную форму рух адраджэнчэскі народаў. І сапраўды, мыж сэмыя бачым, што быццам, нейкі новы вецяр пачуўся, што нясе з сабою новы дух, новыя думкі... Вялікія масы народаў, якія да апошняе пары знаходзіліся, маўляў, у сьне якомсьці, пачалі падаваць свой голас, пачалі заяўляць свае правы да вольнага жыцьця, пачалі заяўляць жаданьне таго, каб і яны маглі засесьці супольна з другімі народамі і самыя маглі аддаць нешта ў агульны скарб культуры свaё і ўзяць адтуль тое, што патрэбна. Іх голас стаеццa ўсе больш і больш магутным, ён пачынае грымець паўсюды „ад мора да мора і нат далёка за мора“. І вочы ўсіх зварочваюцца на гэныя народы, ждучы з вялікаю трывогаю іх лёзунгаў, іх мэт і таго „Шляху“ па каторым яны хочуць ісьці. І не дарма сьвет зьвярнуў на новыя народы свае вочы! Цяпер ясна, што дрэнна на сьвеці, што бачыцца ўжо крах нідалёкі цяперашняе ідэолёгіі розных „большасьцей“, што патрэба шукаць нейкіх новых вехаў. Яны чуюць што народы маладыя, народы да гэтае парэ не праявіўшыя свайго „я“ ў гісторыі, нясуць штосьці новае, што яны, ня ўгледаючыся на іх слабасьць, папхнуць сьвет на новы, свой „шлях“.

Такім народам з'яўляецца і народ Беларускі. Тымі людзьмі, што створаць новую эпоху, з'яўляемся мы. І мусім паказаць дзеля гэтага свой шлях, каб ўсе маглі збачыць, якую мы сабе выбралі дарогу.

Пэўна што і доля наша тут лягчэйшая, што нам трэба меньш хістацца на ўсе бакі і не марнаваць дарагога часу, бо мы бачым ўсе тыя абмылкі, каторыя рабілі іншыя народы, што мы ня зробім таго, за што яны каяліся. Але ўсеж можна бачыць тыя абмылкі, аднак свайго шляху ня цярабіць, бо на тоя каб гэта рабіць, патрэбны творчыя сілы народу, павінны быць тыя элемэнты, з каторых творыцца новая ідэолёгія. І мы ведаем, што нас не зразумеюць адразу, мы ведаем, што тоя, што рабілася вякамі і у што людзі ўлажылі шмат душы і працы ня так лёгка пакідаецца. Але у нас ёсьць вера ў сябе і ў свае правы, мо нат сказаць, якія мы заяўляем. Наша змаганьне пакажэць рэальнасьць ці мітычнасьць нашых думак.

І так перш на перш, дзеля самае нашае моладасьці (моладасьці ў сэнсі найбольш шырокім) мы скідаем з сябе ўсё тоя благоя, што аставілі нам ў душы разныя падчас і надта цяжкія абставіны жыцьця і гаспадары і ня толькі скідаем з сябе, але адначасна заяўляем, што ўсім на сьвеці паможам ў гэнум напрамку, што ўсе, маючыя падобныя да нашых думкі, будуць нашымі сябрамі і братамі і што мы маем цьвёрдую веру, што толькі ў таком аб'еднаньні зробім што думаем.

Далей, ведаем добра, што ўсе мы, амаль што, выйшлі з народу. Мы знаем яго магутнасьць і можам прадбачыць тую роль, якую ён павінен зыграць у кожным пытаньні, якоя калі-коляк не ствараласяб; і мы не дамо сябе абмануць яго выглядаючаю слабасьцю, а ведаючы і веручы ў гэта, маем ужо той кусок шляху, каторы знаходзіцца бліжэй да нас... Ужо ён маець на сабе толькі прыгожасьці ад яснага сонца, каторае сьвеціць над ім, што нас не зварушаць з месца ніякія падмовы, што нам ніхто ня скажэць, што паставілі сабе бога, мо ужо не „пьянога“ але ўсеж надта фіктыўнага хоць і моднага цяпер і г. д. Мы верым шчыра ў народ і народ верыць ў нас, бо мы і ён заўсёды стульна з сабою зьвязаны ад пачатку да канца. Народ і сам чуець, што яму чагосьці не хватаець, ён сам згарнуў усе свае сілы і ўглядаецца ўсюды, яшчэ нікому нічога не гаворыць, бо калі ён скажэць, будзе позна пачынаць перарабляць, або рабіць інакш. І дзеля таго няхай ўсе ведаюць гэта і няхай напрасна не марнуюць сіл і аставяць яго, бо Ен ня іх...

І ўжо з гэтаю працаю ў народзе і дзеля народу так много, много чаго іншага...

Гэта наш „шлях“ з боку аднаго. З другога ў ём прыгожасьці ня менш, ён такі ясны, такі чысты, на ём німа яшчэ нічога, што маглобы пакрыць яго якоюсьці шэраю і мглою, зрабіць яго чамусьці нявыразным. І ён астанецца такім-ж чыстым, бо мы яго будзем рабіць, мы тыя, каторыя ўсе свае лепшыя думкі ахвяравалі дзеля аднае мэты зрэалізазаньня...

І блізко, блізко ужо відаць, здаецца, ўсе народы згодныя, звязаныя сваімі ідэямі, роўныя, каторыя будуцьісьці шчасліва праз жыцьцё, спакойна, бяз ніякіх сумленьняў. І прыдзець тая пара і мы яе зробім.

С. Радзіміч.

Вільня 1922.

# Аб нашым Мэсыянізме.

Пытаньне „дзьвюх душ“ закранутае ў нашай літэратуры з'ўляецца чымсьці такім жывым, так голасна кідаецца ў вочы на кожным шагу, бачыцца ў кожнай найменшай праяве у асоб ужо найбольш індывідуальных, што гэта ўсё гаворыць аб яго надта вялікай балючасьці, аб яго вялікім значэньні ў нашым нацыянальным жыцьці. Яно з'ўляецца чымсьці спэцыяльна беларускім, чымсьці сваім, што адкідваць яго мы ня можам. Мы павінны над ім затрымацца, згрунтаваць па меры магчымасьці і знайсьці меры, дзеля найхутчэйшаго яго злiквідаваньня.

Ведама, што на гэта зложылася шмат часу, бараць6а дзьвюх культур; візантыцкае і рымскае, а нат лепш сказаць ўплывы рэлігійных пoглядаў з боку каталіцкага і праваслаўнага. Нешта падобнае можам абачыць у іншых формах, дзякуючы іншым абставінам у нашых братоў—славян: сэрбаў і харватаў. У іх дзякуючы гэтакай розніцы рэлігіяў зрабіўся падзел і разрыў нат ужо, каторы ня ведама ці хутка і калiколечы скончыцца.

Ад пачатку незалежніцкае беларускае работы перад вачыма нашае сьведамае інтэлігэнцыі ўстала гэтае пытаньне і трэба думаць, што будзець істкаваць яно шмат часу.

Пытаньне гэта, як і кожнае іншае маець ў сабе дзьве стораны: добрую і благую. Да апошняе пары прывыклі мы ўглядацца толькі на адну — благую старану. Сэрца ўсякаго з нас баліць моцна, бачучы якбы нейкую сьцяну, падымаючуюся паміж роднымі братамі, баліць і сумуецца, бо гэта значыць, што шмат сіл карысных для працы марнуецца зусім дарма, бо шмат людзёў слабейшых ня можаць перайсьці праз гэты як быццам нейкі Рубікон, аддзеляючы душы адных ад другіх. Каб зьмяніць дагэтачаснае становішча родзяцца такія ці іншыя думкі, дзеля зніштажэньня гэтае сьцяны. каб разагнаць чорныя хмары над гарызонтам адраджаючагося народу беларускага,

Я хацеўбы глянуць на тое самае пытаньне з боку іншага, з яго стараны добрае. Да гэтае пары мы, Беларусы, ня маем выразнага пoгляду, творчае думкі аб якомсьці сваім нацыянальным мэсыянізьме, аб тым становішчы якое мы зыграем у жыцьці сьвету, што найменш народаў славянскіх. Наагул у Эўропе вольнае мейсца у працэсі культурна — гістарычным асталася для Славян, Народы грэцкія, рымскія і гэрманскія як гэта прызнана ведамымі гісотрыкамі культуры, выпаўнілі сваю задачу, зрабілі тоя, што прыпало ім у долі, адныя далі нам гісторыю старую, другія сярэднявечную і новую і гэта іх адлучыла зусім ад ўсходу. Усход астаўся сам сабою і пайшоў у гісторыі іншымі шляхамі. Праўда спробы зблiжэньня ўсходу з захадам былі робляны ня раз. Робляны былі сперша прэдстаўнікамі духувенства, якія мелі перад усім на мэці зблізіць касьцёл з цэркваю, а пасьля ўжо, а нат праз гэта самае і тыя розныя культуры. Былі робляны спробы з боку гаспадарскае ўлады. На ўсходзе пераймаліся формы захадняе гаспадарственасьці і кіруючыя органы думалі дakанаць свае мэты ў гэтакі спосаб. Былі так сама робляны спробы і прэдстаўнікамі грамадзянства з аднаго і другога боку, якія думалі злучыць парваныя ніці, знаходзячы лекарства ці ў справах эканамічных, ці грамадзянскіх, ці мо нат ў рэлігійных. Аднак рэальна ў жыцьці мы нічога не абачылі, задалёка ўжо разыйшліся іх

дарогі, думкі іх разыходзіліся ў самых прынцыповых пытаньнях, цяжка было папчас зразумець адным другіх, бо іншымі катэгорыямі яны думалі.

Бачым ўжо далей, што Палякі, знаходзячыся быццам на мосьці, які лучыць захад з ўсходам, црынялі на сябе абавязак быць адначасна людзьмі захаду і ўсходу, бараніць адных „культурных" ад цёмных сіл далёкіх і дзікіх сыноў сьцякоў ці пустынных раўнінаў Азіі, і з другога боку прыцягнуць да сябе сваіх „меншых" братоў славян, знаходзячыхся далей ад іх на ўсход. На гэтай ніве зрадзіўся мэсыянізм Міцкевіча, Славацкага, Красінскага і іншых вялікіх прэдстаўнікоў народу польскага. Яны верылі ў сваю ідэю, яна ім здавалася чымсьці такім канешным у жыцьці Палякоў, што і сапраўды вера гэта прывілася зрабілася галоўным лёзунгам думкі палітычнае польскае і трэба згадзіцца, што дзякуючы гэтай веры, Польшча дабілася свае незалежнасьці, бо цэлая Эўропа пачала глядзець на роль Польшчы такімі вачыма, і тых далёкіх пачаткаў мэсыянізму—канец цяпер мы бачым. Гэтак рабілі Палякі, адзін з народаў славянскіх, які да XIX веку меў свае гаспадарства і даволі вялікую культуру. У той самы час, біручы рэч храналёгічна крыху пазней, другі славянскі народ, тады злучаны у магутную імпэрыю, Расейцы, стварылі іншую ідэолёгію. Апіраючыся на нейкіх фактах, мо трэба разумець на сіле расейскіх штыкоў і агромністай разцягнянасьці гаспадарства, людзі, мо часта і з добраю вераю, прыйшлі да пераканаНьня, што ўсе іншыя славяне такія маленькія і слабенькія, нічога самыя не потрафяць зрабіць і што яны будуць мусялі, як расейцы казалі „слится всем славянским ручьям в одном русском море". Маючы такі прынцып лёгка зразумець ўсю тую царскую палітыку, на якой былі ўсёж ўплывы гэтага мэсыянізму, якую мы бачылі на свае ужо вочы. Рабілася ўсё і прытарноўвалася да тое галоўнае думкі.

Вось, якія будуць найбольш выразныя і галосныя думкі, ці інакш кароткі пагляд пытаньня злучэньня ўсходу і захаду.

Цяпер прыглядзімся бліжэй да справы, ўзлянем на яе з боку беларускага. Бо як ня дзіўна, а імя Беларуса да апошняе пары зусім не спатыкалася ні з аднаго, ні з другога боку пры такой ці іншай развязцы. Дванаццаці мільёны народ (трэба тут сказаць найчысьцейшых славян) астаўся дзесьці з боку, І тут хаваецца як раз тая абмылка нашых суседзяў.

Аб ідэолёгіі расейцаў гаварыць тут ня будзем, бо апошнія часы ясна не выказалі, што да такое ролі яны не дарасьлі, ці мо да яе не створаны. Многа дзесяцілецьцяў пройдзець пакуль ён сам аправіцца ад вялікае бяды, выпаўшае на яго долю. Так што с тагобоку ня будзе магчымасьці ні выяўляць якіясьці правы свае да нашага пытаньня, ці штосьці падобнае зрабіць рэальна ў жыцьці.

— Палякі на першы ўзгяд здавалася б маюць правы казаць свае словы. Але і толькі на першы ўзгляд. Шмат многа з іх прызнаецца толькі да свае „заходнясьці", вымаўляючы слова гэта з вялікаю гордасьцю. І сапраўды ўсе яны далёкія такія ад ўсходу, ім так трудна ўцямніць дух ўсходні, дух іншы што і мэсыянізм Міцкевіча зрабілі нейкім куртатым, прытарнавалі да думкі „Jagiellońskiej" і здаволены далей ня йдуць. Ня маюць нат зусім ахвоты. І лепш быць шчырым. І цяпер Палякі, а прынамсі вялікая частка іх, пайшла гэтым шляхам, бо пачулі яны немагчымасьць узяць на свае плечы такое вялікае задачы, убачылі, што адкрануліся задалёка на захад, што ня могуць паразумецца самыя з усходам, што надта добра бачылася хаціб у іх інэртным становішчы каля ўсіх Велеградзкіх кангрэсаў, якія зьбіраліся прад самаю вайною, дзеля зрэлізаваньня новае уніі Касьцельнае. І відаць, што вялікая гэта іх інэртнасьць, бо дарэмныя былі і ёсьць ўсе прызывы грамадзянства з боку тых людзей, каторыя яшчэ хацелібы ўваскрэсіць даўны мэсыянізм польскі і пахнуць Палякоў да старае думкі.

І тут становіцца ясным, што мы Беларусы, наш народ зрэалізуець ўсе спробы, што ён, дзякуючы як раз свайму, з аднаго боку дрэннаму становішчу, вызначаны лёсамі, дзеля дакананьня такога злучэньня. І ўжо цяпер пачынаюць на нас аглядацца . Тыя самыя Палякі, адныя балей, другія менш выразна, аднак гавораць аб гэтым. І мы павінны паглядзець на сябе, павінны спытацца, ў сябе, ці падгатованы да такога становішча, ці маем даволі сілы ў сябе, ці будзець магчымасьць з нашага боку давясьці да канца вялікую задачу.

Ня можам нічога цяпер сказаць аб народзе. Ен яшчэ далёкі ад такіх пытаньняў, сілаў сваіх не сабраў дзеля таго, каб сказаць сваё апошняе слова. Усёж так самы падзел яго на часьці, на Беларусаў больш ці менш з ўсходняю ці заходняю культураю гаварыць сам за

сябе. Да той пары, пакуль ён быў не сьвядомы свае нацыянальнасьці, пакуль справа рэлігіі была для яго ўсім, гэты падзел быў нат дрэнным. Але цяпер, калі гэта сьвядомасьць робіцца штодня ўсё вялікшаю, калі амаль ня кожны дзень прыносіць новых байцоў за родную справу, тая благая старана перараджаецца на добрую. Творыцца сынтэза ўсходу з захадам зусім не сьвядома пакуль, але яна ёсьць. Народ расплюшчваючы вочы ня прылучаецца ні да аднас з дзьвюх старон, пачынаець рабіцца самым сабою. І гэта „само сабою" з'яўляецца грамаднага значэньня сынтэзаю. Так робіцца ў народзе.

Інтэлігэнцыя пайшла далей. Там людзі зусім выразна паставілі сабе такое пытаньне і ня менш выразна даюць на яго адказ. Там бачым спробы знайсьці пат шляхі, па якім йшла беларуская думка ў гэтым патрамку. Ведама, што Скарына, а мо і далёка да Скарыны яшчэ, палажэньне беларускага народу была добра ўцямяно, што тады ужо дужэйшыя галавы прадбачылі роль Беларусоў... Праўда, што да апошняе пары, яшчэ ня маем нічога выразнага, якою маець быць тая сынтэза. Якую форму і воблік яна будзець мела ня вядома. Бо адныя хочуць яе бачыць у сынтэзе рэлігійнай, другія ў палітычнай (спробы стварэньня агульна славянскага гаспадарства, трэція проста кажуць, што сілы беларускія перамогуць інэртнасьць ўсіх і пацягнуць за сабою сьвет на новы шлях, да новае эры.

На нас мальдых ляжыць абавязак прагледзець ўсё, што было зроблена дагэтуль, разглядзецца крытычна у ва усім часамі шмат ня выразным вобразі і сказаць сваё слова. Голас масы, голас нашае працоўнае інтэлігэнцыі ня можэць фальшывым Ен паказываець нам добры шлях, ён паказываець чым могуць быць Беларусы, яны нам даюць магчымасьць ўжо цяпер гардзіцца імём Беларуса. Мы толькі павінны выбраць шлях, які павядзець нас да гэтае мэты. І пэўна што адказ дамо ня хутко. Яшчэ і мы трошка хворыя, носім на сабе сьляды старых, дрэнных абставін, але мусім страсянуцца ад старога, глянуць яе но і уверыць ў сябе і свой мэсыянізм.

С. Радзіміч.

*

* *

У працягу ўсяго гістарычнага жыцьця даецца зауважыць, што моладзь акадэміцкая—студэнты, у жыцьці палітычным, грамадзкім і культурным займала моцнае становішча. Яна, была заўсёды тым імпульсам, тым актывам, які папіхаў жыцьцё наперад. Гэта зусім зразумела, знаючы тую сілу тую энэргію, якая таварышыць юнашы—студэнту, маючаму ў сваіх рукох апрача таго такую сілу, якою зьяўляюцца знаньне і наагул навука. Ня ўдаючыся ў многіх прыклады, прыпамінаю першыя больш-менш выдатныя.

Калі Лютэра ня ўсюды ахвотна прыймалі, як прарока новага вучэньня далёка здароўшага, чым зменянае людзьмі вучэньне Хрыста, у відзе папскіх буллаў, — тады студэнты былі першымі яго прыяцелямі і памоцнікамі.

У прысутнасьці іх, як-бы будучы абароняны за іх плячыма, ён спаліў папскую буллу і смела і аткрыта вывясіў на дзьвярох цэркви свае тэзісы.

Рэвалюцыі—гэтые ўзрывы за лепшую будучыну ня толькі сваю але і агульную—заўсёды былі падтрымліваямымі а нават кіруямымі таксама студэнтамі. Ня ўспамінаючы аб рэвалюцыях дзевятнадцатага сталецьця, — першы факт аб гэтым сучасная рэвалюцыя расейская.

Пры паўстаўваньні сучаснай Польшчы, а яшчэ больш выразьней пры барацьбе за тэрыторыю, хоць і няпольскую, якую яна прысваівая сабе, студэнты-Палякі займалітаксама актыўныя становішча. Займаюць яны яго і цяпер, хоць і ня зусім сымпатычнае.

Нясымпатычнае таму, што яны ў азарці нацыанальна патрыятаычнай захопленнасьці ня шануюць другіх. — Яны ў часі паўставаньня сучаснай незалежнай Польшчы крычучы: „Усе народы маюць роўныя правы да незалежнага нацыянальнага істнаваньня," як-бы цяпер гэтага ня памятуюць, што і мы—Беларусы — маем такоя-ж права, як і ўсе другіе народы быць не залежнымі яны, разьвіваючые сваю культуру, мову забараняюць гэта рабіць нам.

Бачачы больш-менш якоя становішча займалі і займаюць студэнты наагул у жыцьці палітычна-грамадзкім, навязваецца пытаньне якое становішча займалі студэнты-беларусы ў працягу, гісторыі адраджэнчаскага руху, якое

нашае павінна быць productовішча і наагул якія нашы заданьня.

Адны жыцьцёвыя напрамкі, імкненьня ці нат заданьня людзей маюць значэньне, вартасьць і вагу часовую, гістарычную, другія-ж вартасьць вечную.

У руху студэнцка-беларускім даецца заўважыць як першыя так і другія — Калі студэнцтво беларускае ўжо за часаў расейскага панаваньня над нашым краем і народам „выходзячы ў людзі" т.е атрымлімліваючы асьвету часто забывалася, устыдалася сваей мовы, сваей нацыі, і нат падчас сваіх бацькоў,—выракалася іх,—тады яны, хоць ведама ня ўсе, больш ідэйныя, больш гуманныя, папярэднія адраджэнцы — апомніўшыся перад усім распаўсюджывалі кліч: „Ня выракайцеся сваіх, ня рабецеся чужымі".

Тады гэты кліч быў першай вагі, бо ён рабіў самае небходнае, для чаго рух беларускі ня мог бы радзіцца і істнаваць. Яны, інтэлігенты „варочаючыся да сваіх", да народу, пачыналі любіць яго, гарачэй да сэрца пачалі прыймаць яго гаротнае істнаваньне і з жывасьцю і аснасьцю радзілася ідэя аб змаганьні за незалежнае істнаваньне нашага народу.

Адначасна, кансанквэнтна з гэтым яны пачалі цікавіцца яго мінуўшчынаю, пачалі зьбіраць народныя беларускае байкі, песьні, легэнды, пагаворкі, звычаі і гэтаму падобныя. Кахаючы сваю старонку пачалі зрысовываць і фатаграфаваць найпякнейшыя мейсца яе. І гэтаю працаю яны прынясьлі пасільную дозу карысьці для навукі і беларусазнаўства.

Але гэты рух ніколі ня быў толькі нацыянальным, а, Божа бараніі, нацыянальна-шовіністычны. Заўсёды ён нёс разам з нацыянальным адраджэньнем і адраджэньне социяльнае — палепшэньне долі ня толькі Беларусаў але і ўсіх угнячённых.

Значыць Беларусы, студэнты-адраджэнцы, мелі імкненьня, якія ня страцяць ніколі вагі, а маюць значэньне вечнае, як імкненьня да агулнага дабра і шчасьця.

Мы-ж у сваім часе, стаючы на цьвёрдым грунці барацьбы за незалежнае істнаваньне свае Бацькаўшчыны, павінны зрабіць значнае ў гэтым напрамку.

Калі ў сучаснай „дэмакратычнай" Польшчы над Беларусамі, а перад усім над беларускім селянствам пануя зьдзек, гвалт і рэакцыя большыя як у царскай буржуазнай Расеі, мы павінны прыйці з маральнай падмогай свайму селянству; раз'ясніць яму павагу значэньня незалежнасьці; надаць яму моцы духу і энэргіі ў барацьбе з уціскам пануючых, каб яго фактычна „ня запужалі". І што самая сымпатычнае прысьці яму с помаччу ў барацьбе яго за сваю беларускую школу. Там дзе пануючая ўлада забараняе істнаваньне беларускай школы, або зачыніла яе, або ня дала магчымасьці адчыніць яе, там дзе селянства, згубіўшы надзею адступая перад мацнейшымі,— там падсыпаць агню, энэргіі, самым уступіцца ў гэту справу і дабівацца істнаваньня такой. Гэтым мы зробім тое, што цяпер першай вагі для жыцьця і руху беларускала і гэтым найвыразьней пакажэм, што мы шануем сваю родную мову, як дарагі скарб народны і гэта будзе ня ў слові..

Так сама павінны збіраць народныя творы, паэзыю «частку душы народнай», архэолёгічныя памяткі, і зьбіраць навуковы матэрыял, а мастакі нашы павінны зафіксаваць пекнасьці і чары нашай вёскі, палеў, лясоў, балот.. у гэтым напрамку найбольш павінны мы працаваць ў летку.

І калі кожны з нас зробіць пасільная, і так сапраўды ён зробіць тое, што для нас з'яўляецца абавязкам, што мае велікая значэньне.

Будучы на унівэрсытэцкіх студыях і перэжываючы тыя гады, калі у чалавека фармуецца сьветапагляд, калі найвыразней, найпаўней, наймацней укладаецца характэр, калі чалавек павінен самавыховывацпа,—мы павінны звярнуць паважную увагу на свае самавыхаваньне.

Мы павінны выхаваць з сябе людзей не эгоістаў, не карыстнікаў, не карыерыстаў, але тых гуманістаў, якія агульные грамадзкія справы паставяць вышэй ўсяго, якія будуць дбаць а счасьці і дабры ня толькі беларускім, але агульна — людзкім, а счасьці тых народаў, якіе будзець абнімаць сваімі крыльлямі наша Маці—Беларусь. Трэба дбаць, каб ня пайсьці тым шляхам якім пашлі нашы уваскросшыя суседзі, захопленныя нацыяналізмом.

Гэта нашы заданьня.

Вільня 16 V 1922 г. М. М.





Капліччка з Слуцкага Магільніка.

(*Црыклад старадаунае беларускае будоулі*)

# Фрагмэнты з сучаснасьці.

пераробляна з Л. Кржывіцкага.

„І Вы лічыце гэта грамадзянствам гаварыў калісь Carlyle у чым няма супольнае думкі грамадзкае а хацяб нат і паняцьця супольнага вогнішча хатняга, толькі ідэя вагромністай казармы. Там кожны схаваўся, ня думае аб блізкіх і зварочваецца проціў іх, хапаець тое, што ўдалося яму дастаць, крычыць „маё“ і завець гэта дабром, супакоем, толькі дзеля таго, што ў гэтай барацьбе злосный ня прысутны нажы жалезныя, толькі іншыя, куды страшнейшыя, мо толькі больш прыгожыя, больш кволыя“!

І сапраўды дарма шукалі-б мы у жыцьці грамадзянскім таго, што публіціста ангельскі называў супольнаю думкаю: гармоніі ў сэрцах і імкненьня да прыгожага дзеяньня. — Лятуценнікі выказываюць часамі такія прынцыпы ставячы гэта, як далёкі ідэал і ў адказ чуюць, што яны зусім не зварочваюць увагі на натуральныя правы чалавецкае натуры, якая кажэць грызьці адным другіх. І пасярод думак, разглядаючых глыбейшы сэнс сёньняшняго грамадзкага жыцьця ня бачым ні адной, якая-б старалася паказаць сучасныя формы чалавечага жыцьця, як супольную душу. Нат староннікі пагляду, што грамадзянства гэта натуральны арганізм, каторыя так дасьціпна правялі аналёгію між фактамі біолёгічнымі, а нутром грамады, а ўсё-ж забыліся дайсьці да самае душы агульнае, ці мо і не падумалі так глядзець на гэта пытаньне.

Carlyle найшоў у фундаменці сёньняшняга грамадзкага жыцьця толькі ідэю адной вялікай казармы, мо не салдацкае,—а больш прыгожае, хоць і то не заўсёды. Не капаўся глыбей, а толькі прыняў да ведама адну старану таго жыцьця. Каб ён паказў нам іншую старану, тады мы прыраўнялі-б з чымсьці другім сучаснае чалавецтва. Убачылі-б мы, што ўсе сябры чалавецтва быццам, незалежныя сапраўды—аднак звязаныя моцна ланцугом, хацяб падзелу працы свае. А нат болш гэты мус, прыгон, быццам, які кажэць селяніну гараць, сеяць для шаўца, а таму рабіць боты селяніну, зьяўляецца тым сапраўдным перавяслом, які зьвязвае ўсіх с сабою.

Штодзенным зьявішчам гэтае лучнасьці ёсьць торг, тое відовішча, дзе ўсе таемныя пружыны нашага жыцьця і ўсе дарогі, вядучыя да мэт, вырастаюць з такою выразнаю магутнасьцю.

Там бачым селянку на возе з бульбаю, іншыя прадаюць малако, блізка круцяцца гандляры, а работніца лічыць ці хопіць ёй грошай для хворага мужыка. На поўгадзіны перад тым усе гэтыя людзі былі зусім чужыя, угледаліся здалёк бяз ніякае цікавасьці. На таргу пачулі аднак і толькі на таргу, што ўсе зьвязаны ланцугамі і што супольна яны нешта цэлае, арганізм сацыяльнага падзёлу працы.

— Гэтая драма, бо пад формамі мо часта і сьмешнымі, хацецца рэч надта сурьёзна, а якая робіцца і ў ціхім куточку — у хаце селянскай і ў голасным месьце, усюды бяз перарыву — і творыць самы сэнс адносін чалавека аднаго да другога.

А ўсё-ж ці такія адносіны, калі я пытаюся, сколькі? і жду на гэта адказу, ці купля і прадажа выпаўняюць ідэю супольнае думкі чалавецтва?

Ці паміж учасьнікамі „тарговае драмы“ магчыма дзеля такіх адносін тая „гармонія сэрца і імкненьня да прыгожага дзеяньня?“—агульная саліцарнасьць?

Каб знайсьці такую супольную думку ў гамадзянстве—чалавецнасьці, трэба вярнуцца нам далёка, далёка назад у мінуўшыя формы адносін людзей.

Есьць яшчэ на сьвеце людзі так званыя „дзікімі.“ Сьмяёмся цяпер мы гледзячы на іх, бо-ж яны ня маюць ні чугунак, ні тэлеграфу і тэлефону, ні фабрык гарэлкі і шампанскага. Той падзел працы ім яшчэ ня вядомы. Цэлае племя трымаецца супольна больш дзеля ўзаемных сымпатыяў і нічога ня маючых супольнага з нашым „колькі-стольки.“ Усе спробы узяць уладу над Аўстральцамі, карыстаючыся з думкі divide і et impera“ былі дарэмныя. Давалі аднаму прыгожую вопратку, каб неяк выдзяліць яго ад усіх. Але ўжо ў той самы дзень вопратку насіла ўсё племя амаль і той нат каго хацелі падрачыць, хадзіў у ёй задраўшы з горадасьцю галаву. Дасьцё камусьці мукі, але і гэта ня зродзіць ніякае зайздрасьці. Бачым у той самы вечар усе сядзяць каля

вогнішча, ня узіраючыся на „маё ці тваё“—весяляцца аднолькава.

Або зну такі малюнак. Калі падчас вялікага голаду ў Індыі, мільёны людзёў паўмірала і ўжо пасьля толькі Англічане прыходзілі да вёсак і вось што яны там бачылі: перал аўтаром і ў вонках, за сьценамі ляжаць мерцьвякі, тулячыся адны да другіх. Жыхары вёскі дзяліліся ўсім да апошняе пары, а калі ўсё ўжо скончылася—уміралі супольна, абнімаючы адзін другога. Ня было барацьбы, ня было таго, каб брат забіваў брата, ня было сцэн аб якіх чытаем, якія спатыкаюцца ў лодках пасьля разьбіцьця карабля...

Торг сёньняшні, дзе ўсё робіцца за грошы і толькі грашмі, пачаўся з мінуўшае салідарнасьці. Але пачаўся не ў нутры грамады племя, бо там ня было ніякае па гэтаму магчымасьці. Скарыстаў з таго, што паміж суседзямі вайна была прынцыпам, вайна страшная і засеў на такой граніцы, а пачаўся з самае бітвы. Ведаем што часто ворагі змучаныя барацьбою, аддыхалі і што ў такія мамэнты вялі з сабою менавы гандэль. Тыя пачаткі бачым бязумоўна на прэдстаўніках сёньняшняе драмы. Нейкая маральнасьць куплі і прадажы, гэта толькі іншая форма хітрасьцяў ваенных. Торг—тая самая бітва, дзе замест аружжа, бачым, быццам рэчы зусім ня шкодныя, добрыя. Але калі мы ўзглянём на якуюсьці біржу там прынцыпы гэтае вайны так нам кінуцца ў вочы, што сумлеўкаў ніякіх ня будзець. Водзяцца партыі, дужэйшы з радасьцю крычыць: бій пакуль можна, збораныя ледзь дыхаюць і толькі гразяць кулакамі...

Торг, зьявіўшыся на граніцы племя, пачаў распаўсюджывацца да адных і другіх, выкідаў братнія адносіны і кожнаму чалавеку даваў нож насупроць іншага. І пачалася бяда, адзін рэзаў другога. Хітрасьць паганая ўкралася ўсюды. Усюды лгуць, кожны мо толькі на свой спосаб, так што Tarde гаворыць, быццам шляхі нашае цывілізацыі летка пазнаць, як раз дзякуючы лгарству з усімі яго атрыбутамі. Ня бачым шчырасьці, яна робіцца якоюсь-ці немагчымасьцю. І цяпер зразумела як гэта чалавек зрабіўся такім, якім яго бачым сёньня, Ён іншым быць ня мог, бо яго змусілі бароцца аднаго з усімі і пэўна што з яго душы асталіся часткі, згодныя з вымагамі барацьбы, што ў душы замест леткіх крыльляў, растуць пазуры і гострыя зубы і людзі робяцца стадам галодных ваўкоў, філёзофія якіх пачынаецца і кончыцца на тым, што адзін цягнець да сябе і крычыць мае, другі быццам у захопленасьці вялікай гледзячы на яго, робіць тое самае.

Хто ня бьець, таго бьюць!

. . . . . . . . . . . . . .

Што будзець далей? куды мы пойдзем?

1922 г. С. Дрыгуновіч

# ШТО ТРЭБА ЗРАБІЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ І ЛІТЭРАТУРЫ?.

Пераклад з Карскага.

Што зробляно з боку беларускае мовы і літэратуры да гэтай пары, можна бачыць, хоць бы з маіх „Беларусоў“, дзе ў 1-ым томі даны агляд усяго, што напісано па паказанным пытаньням, пачынаючы ад канца XVIII сталецьця і да цяперашняго часу; у II томі выданьня I зроблена характэрыстыка сучаснаго беларускаго выгавару; зробляны агляд палеографічных асаблівасьцяў, памяткаў мінуўшчыны пачынаючы с старадаўнейшых XVII стал. і кончачы рукапісамі XVIII в. Усе гэта служыць ўступам у гісторыю беларускай мовы, абнімаючую фонэтыку (гукі і націскі). 2-гое выданьне II тома абнімае морфолёгію (словоутварэньне і словозʼначаньня скланеньня і спраженьня; 3-цяе выданьне II тому прадназначана сынтаксісу. Агляд ўсяго зробляннаго па навуснай, народнай славеснасьці даны ў I выданьні III тома; старой беларускай пісьменнасьці прадназначанны выданьне 2 III-го цяпер вышаўшае з друку (Пяцярбург 1921 г.). Прыгатованы аўтарам да друку і 3-е выданьне III тому „Беларусаў“; змешчаецца там агляд мастацкай літэратуры ў роднай мові с пачатку XIX ст. да 1920 г.

Думаць што паказанымі працамі ўсё вычарпано з мовы, вуснай славеснасьці і літэратуры беларускага народу, было бы яўным блудам. Яшчэ ёсьць прасторнае поле нам для дзельнасьці. Гэтак з мовы яшчэ прадстаіць вялізар-

нае заданьне злажэньня беларускаго слоўніка.

Істнуючые слоўнікі Носовіча (Пяцярбург 1870 г.) і Добровольскага (Смаленск 1914 г.) маюць дыялектычны характэр: яны ня абхопліваюць ўсяго беларускага лексікона.

Першы абаснованны на матэрыялах Магілёўскай і часткі Вітэбскай губ., а другі мая на мэці Смаленскую губ. Апрача таго гэтыя слоўнікі ня поўныя. Чытаючы слоўнік Носовіча, можна падумаць, што Беларусы ня ведаюць такіх, напр., агульнавядомых слоў, як „Бог", „вада", „агонь". „нана" „сын" і г. д., у абодвых названых слоўніках ня можна знайсьці і масы спэцыяльна беларускіх слоў. Я не ўспамінаю аб „Слоўніку" М. Гарэцкага, маючага ў заданьні чысто практычныя мэты і над то далекім ад якой коляк наўнаты.

Такім чынам напісаньне поўнаго беларускага слоўніка вельмі няабходна. Трэба зарэгістраваць тыя багацьця, якім ўладая беларуская мова. Пры каждым слові трэба аднатаваць, ці свае гэта слово, ці узятае з куль-нябудзь; ці ёсць яму адпаведныя ў другіх мовах і говарах рускіх славян, ці вядомо было яно старадаўняй рускай мове.

Аднак напісаньне слоўніка-справа дужо вельмі трудная, якую павінны паперэджаць падгатоўчые працы. За іх трэба узяцца знаўцам і аматарам беларускай мовы. Для гэтаго трэба 1) выбраць на лістоўкі ўсе беларускія словы з розных беларускіх збораў народных твораў (Чечота, Бессонова, Шэйна, Романова, Добровольскага і г. д.), пры гэтым пры каждым слові зусім дакладна, ў правапісу аўтэнтыка, павінны быць паданы (выканаць з ўсказаньнем на том, выданьне і страніцу) той сказ, дзе гэтае слово спатыкаецца. Канешна, адной асобе ўсе гэта не магчыма: добра, каль ўдаецца паасобным адзінкам выбраць словы з аднаго зборніка, ці нават аднаго тома зборніка. Лепш ўсяго для гэтых заняткаў зрабіць цэлыя кампаніі. 2) Гэтая самая павінно быць зробляно з творамі беларускіх пісьменнікаў, начынаючы з даўных і кончачы сучаснымі нам. 3) Само сабою зразумела, што і істнуючыя слоўнікі павінны быць абняты поўнымі беларускімі слоўнікамі. Для гэтаго трэба было бы ўсе словы пацьверджанныя прыкладамі з народных твораў, выбраць на лістоўкі з слоўнікаў Носовіча, Добровольскаго. 4) Паколькі мне вядомо, ў розных навучных інстытуцыях ёсьць ужо зобраныя матэрыялы для беларускаго слоўніка напр., ў Акадэміі навук ў Пяцярбурзе матэрыялы, прыгатованые Е. Романовым у дапаўненьне да слоўніка Носовіча; ў таварыстве аматараў Расейскае славеснасці пры Маскоўскім Унівэрсытэці ў паперах Бадзянскага; ёсьць яны і ў розных прыватных асоб (Дыбоўскага, Федзероўскага, і др. Някаторыя слоўныя матэрыялы маюцца ў адказах на выданыя аддзелам языка і славеснасці Рас. Акад. Навук „Програмы для збіраньня асоблівасьцяў беларускай мовы. 5) Аднак і такі слоўнік, заложаны на пералічаных матэрыялах, быў бы далекі ад поўнаты: у ём ня былі б (альбо было бы надта мала) народных назоў для раслін батанічных, назоў жывёл, птушак, рыб, казуляк, поузаючых, мінэралёгічных і някаторых хэмічных назоў, спэцыяльных тэхнічных тэрмінаў. Іх неабходна запісываць безпасрэдна з вуст народа.

Што колячы ў гэтым напрамку ужо зробляна: ў „воныце апісаньня Магілеўскай губ." Дембовецкага ўжо есьць пераліченьне назоў флёры і фауны Магілеўскай губ., звычайна з даданьнем народных назоў для Менскай губ. таксама ад часьці маецца ў вядомай працы Ф. Ястремерага „Кароткі абрыс Менскай ў фізычно-географічным і статыстычна-эканамічных абставінах" (Менск) 1897, не гаворачы нават аб старай працы Тышкевіча «Апісаньне павету Барысаўскага» (Вільня 1847). Каб памінуць непаразуменьня пры назовах раслін і жывёлы трэба было бы даваць расейскі переклад, а хто ведае і лацінскую назову. Калі прыгатаваучыя работы для слоўніка будуць скончаны, тады толькі можна прыступіць да рэдакцыйнай угрупоўкі усяго зобранага. Створанае для гэтай мэты таварыство ці Гурток установіць рэгулы выданьня гэтакаго слоўніка. Гэтакім чынам, мы мелібы слоўнік жывой беларускай мовы. Што тычыцца старой беларускай мовы, так тут справа стаіць куды горш. Пакуль мы ня маем нат спроб да выданьня гэткіх слоўнікоў, каль ня мець на ўвазі працы протоерэя Іоанна Грыгорьевіча, ведамага супрацоўніка гр. Румянцэва, які ў Акадэміі навук надрукаваў 10 карт слоўніка старадаўняй беларускай мовы, але ня выпусьціў іх ў сьвет; з смерцьцю аўтара выданьне скончылася. Сякія такія старадаўныя словы і выражэньня папалі ў слоўнік Носовіча, і ў „Матэрыялы" І. Срэднеўскага. Некаторыя беларускія матэрыялы маюцца больш урэшці ў паказальніках, у слоўніках: Балевы Берынды і Л. Зізанія, перэдрукованых Сахаравым у „Сказаньня беларускага

# Сучаснасьць і будучыня.

I.

Няшчасьця, якія завісьлі над нашай зямлёй, сваім цяжарам прыдушылі і нас. Мы топчэмся на адным месцы, пагружаныя ў матэр'яльныя і асабістыя справы. Ня гледзячы на паважны мамэнт у жыцьці нашага народу, каторы прачхнуўся ад векавога сну і шыбкімі крокамі ідзе ўперад для здабыцьця сабе лепшай долі, грамадзянства старэйшае, ці то пад уплывам пэўных абставін палітычных, ці ўзноў асабістых пачынае траціць веру ў памыснасьць працы. Патроху пэўныя адзінкі пачынаюць ставіць справу асабістую, альбо матэр'яльную вышэй, — як агульна-грамадзкую і нацыянальную.

А як павінна заховывацца моладзь? Перад усім мы мусім верыць і працаваць. Прыйшоў час калі наш народ мусіць выявіць сваю энэргію, каторая ў яго дагэтуль спала—і ён яе выявіць—як лавіна вулкана зьнішчыць усё тое, што стаяла на перашкодзе яе натуральнаму разьвіцьцю і выяўленьню. Усьведамленьня сялянскіх масаў як з боку нацыянальнага, так і соцыяльнага мусіць быць нашым першым абавязкам. Калісь расейскія студэнты „хадзілі ў народ", а іншыя яны да гэтага народу з мэтамі філянтропійнымі. У нас мэты важнейшыя, бо нам прыдзецца вызваляць народ з уціску і зьдзеку чужога чынавецтва, нам трэба паднясьці народ на вышэйшы пэдэстал, каб гэты загнаны і запужаны польскай ці то маскоўскай рэакцыяй сялянін-хлебароб сапраўды мог назваць сябе чалавекам, тым вольным ні ад каго незалежным, чалавекам з вялікай літары.

Аднак на першым пляне ўсьведамленьне павінна быць нацыянальнае, бо як мы, дайшоўшы да сьведомасьці, здабудзем незалежнасьць, то справу эканамічную нам будзе лягчэй скрануць з таго мёртвага пункту на каторым яна цяпер знаходзіцца.

З боку нацыянальнага, мы павінны ўсьведамляць народ, што бяз рожніцы веры і палітычных напрамкаў, мы Беларусы, што паняцьця „тутэйшасьці" павінны астацца архаічным паняцьцем, бо ўрэшці мусім жа мы пазнаць самых сябе, хоць гэта і труднае паняцьце з боку філёзофічнага, але з боку нацыянальнага ў гэтым лягчэй разабрацца.

Мы гаспадары краю—краю ад Дняпра і да Бугу, аднак чужынцы валадаюць над намі, у той час, калі нат' калёніі ў Афрыцы, або ў Азіі аддзеляюцца ад сваіх мэтропалій і жывуць незалежным жыцьцём, над нашай зямлёй замест бела - чырвона - белага сьцягу —г сьцягу поту, крыві і працы лунае сьця іншы розны ад нашага.

Польская канстытуцыя дае нам поўныя правы для нацыянальнага разьвіцьця, але гэта толькі ў тэорыі, а ў практыцы што іншае. Закрываньне беларускіх школ і грамадзкіх арганізацый, арышты і баніцыя беларускіх дзеячоў, рабунковая гаспадарка прысланага з Польшчы чынавецтва—вось факты дзеяльнасьці польскай адміністрацыі.

Аднак мы павінны дамагацца ад акупантаў поўнага роўнаупраўленьня беларускай мовы і афіцыяльнага прызнаньня яе на роўні з польскай, ці пад маскоўскім забсрам—маскоўскай мовай.

Цяпер мы зьяўляемся сьведкамі страшэннага культурнага ўціску, якога Польшча ня мела ні пад Масквой, ні пад Нямеччынай. Масавае закрыцьцё беларускіх пачатковых школ *) і афіцыяльная забарона адкрываньня беларускіх школ (Распараджэньне куратара Наваградскага ваяводцтва) дзе польская ўлада стараецца і памагаець адкрываць польска-расейскія школы, а нат' зусім расейскія, толькі-б ня беларускія, бо Палякі аж надта добра разумеюць, што расейскі ўплыў і расейскія школы ня маюць прышласьці на Беларусі, баючыся каб ня паўстаў рух сярод моладзі, беларускіх баяцца як пошасьці.

Аднак, калі на бязупынныя просьбы ўлада і пазваляе адчыніць школу, то каб праз тыдзень, ці два заняць памешканьне школы пад войска, а найчасьцей пад паліцыю, а вучыцеля, зусім нявінна, абвінаваціць у бальшавізьме, або ў русыфікатарстве. А калі дзе і здарыцца, з сапраўды гэроічнымі высілкамі адчыніць беларускую сярэднюю школу, дык зараз-жа знойдуць прыцэпку арыштаваць вучыцялёў, або заняць памешканьне пад паліцыю ці войска (Радашкавічы).

Курсаў беларусазнаўства, вучыцельскіх сэмінарыяў німа ніякай магчымасьці адчыніць, а як дадуць, то праз месяц зачыняць (Баруны—вуч. сэмінарыя).

Нат' Аляксюку не пазволілі адчы-

*) У чародным нумары пададзім каля 200 зачыненых Палякамі беларускіх школ.

ніць вучыцельскай сэмінарыі, тлумачучы новай фінансавай палітыкай ураду, ў той час, калі польскія школы як грыбы вырастаюць на нашай зямлі і нат там, дзе іх зусім ніпатрэба. а Беларусам нат мінімум ня могуць даць каб адчыніць патрэбныя школы, (аднак падаткі і даніна з беларускіх зямель збіраецца, як трэба. —)

Адзіная беларуская сярэдняя школа ў Вільні не істнуе на ўрадовы кошт, дзе ступень навукі ня меньшы чымся ў польскіх гімназіях, а абсальвэнты гэтай гімназіі мусяць быць надзвычайнымі случачамі на ўнівэрсытэці, а ўсёж асабісты склад вучыцельства, беларускай гімназіі ў Вільні шмат лепшы чым у нікаторых сярэдніх польскіх школах.

А якім-жа страшэнным ударам для беларускага студэнцтва зьяўляецца адсутнасьць катэдры беларусазнаўства ў выключна польскім унівэрсытэці ў Вільнні! Гэта балюча адчувае ўсё беларускае грамадзянства і Беларусы-студэнты.

З боку эканамічнага Беларускаму народу за апошнія гады зрабілася страшэнная крыўда, бо вайна, якая цягнулася блізу 7 гадоў, увесь час адбывалася на нашай тэрыторыі і ў той час, калі іншыя народы залечваюць раны нанесеныя вайной, адбудовываючы прамысловасьць і папраўляючы гаспадарку, ці то коштам піраможаных, ці запамогамі ўраду, мы запамог ня бачым, а толькі вываз за граніцу нашага багацьця. Як можна назваць такія факты як прадажа Англіі Белавежскай Пушчы, гордасьць і красу лясоў усей Эўропы, як назваць тую безупынную вырубку лясоў і сплаў іх за граніцу, што як падаюць польскія газэты вываз дрэва за граніцу ў дзесяць (!) разоў павялічыўся ад прадваеннага, у той час, калі сяляне мусяць плаціць вялікія грошы каб збудаваць хату зьнішчаную вайной.

З другога боку калёнізацыя, катораймы зьяўляемся сьведкамі хіба найбольшы акт гвалту эканамічнага. Мала таго што абшарнікі прадаюць зямлю чужынцам, мала таго што лясы нішчацца, мала ўціску маральнага — калёнізацыя найвышэйшы акт гвалту!

Сялянства наша, як беззямельнае, так і мала зямельнае жадае і патрабуе зямлі, каб у той ці іншы спосаб яе дастаць. У нас зямлі шмат, асабліва у вялікіх маёнтках, але як раз тут на перашкодзе стаіць калёнізацыя. Калі глядзець крытычна на такое стоновішча, то ні ў інтэрэсах Польшчы вясьці такую аграрную палітыку, бо сялянства беларускае з ненавісьцю глядзіць на прыбышоў з Познані, Галіціі а нат Шлёнску, а гэта толькі больш заагняе і без таго істнуючы антагонізм паміж беларускім а польскім народам. Прынцыпова не магчыма адкінуць надзел зямлёй салдатаў, але гэта мусіць быць раздавана толькі для мясцовых Палякоў ці Беларусаў. З другога боку калёній немагчыма закладаць у 20 веку і у Эўропе, што іншае у 17—18 вяках і то ў дзікай Азіі або Афрыцы, гэта было яшчэ магчыма. На гэты факты ту можам заглядацца як на дэнацыоналізацію і эканамічнае руйнаваньне беларускага народу з боку Польшчы — факты зусім аналёгічныя да нямецкага гакатызму, або да дзеяльнасьці расейскаго „селянскага пазямельнага банку.“ Што тычыцца каапэрацыі, то Беларусы зусім, пазбаўлены ініцыятывы у гэтым напрамку, пірашкоды з гэтага боку робяць прост немагчымай працу, (Віленскі Саюз Каапэратываў) а там дзе істнавалі улада стараецца зачыніць (Горадня, зачынена 17 каапэратываў). І многа яшчэ чаго можна было-б напісаць аб тых праследаваньнях, якія адбываюцца на нашай зямлі. Польскі шовінізм пабраў ўсе горшыя староны уціску ад Немцаў і Маскалёў і застасаваў іх да беларускага народу. Палякам Маскалі забараняли пеяць напыянальны гымн, арыштавалі, а нат вешалі за гэта—і з намі тож, за пеяньне Беларускага гымну, нас арыштовываюць (арышт сэмінарыстаў, пеяўшых у вагоне беларускі гымн). Калі дадамо яшчэ прасьледаваньне беларускіх ксяндзоў, каторых пад прэтэкстамі, ці то па даносу паноў, каторым надта не падабаецца беларуская мова ня толькі ў касьцелі, а нат у прыватным жыцьці ксендза, або па даносу польскіх урaднікаў, арыштаваліся бяз даводу нат віны (кс. Пятроўскі), або трымаліся пад надзорам паліцыі (кс. Стэповіч), або зусім проста абвінавачывалі іх у бальшэвізмі калі ў свой час Савецкая Улада абвінавачывала іх у контр-рэвалюцыйнасьці. Аб праваслаўных сьвяшчэніках і гаварыць ня прыходзіцца, няраз над імі рабіліся нат фізычныя гвалты (сьвяшч. Валасовіч) — факты зусім падобныя да нямецкага культуркамфу.

Польшча нам павінна была-б спачуваць, бо яна сама перахварэла на страшэнную хваробу палітычнай залежнасці ад суседзяў і калі жывое цела Польшчы было разрэзано на тры часткі ў каторых зьдзекаваліся заборцы — як на гэта глядзелі Палякі і як павінны мы глядзець на тоя што робіцца ў нас. „Гвалт адпіхаецца гвалтам,“ як сказаў Міцкевіч,

або дапасавацца да ідэі Канрада Валленрода? Гэта неэтычна, Беларусы ніколі не пазволяць сабе ісьці гэтай дарогай, бо ўсё тое, што спрэчна з натурай, караецца. Падзел Польшчы быў справай ненатуральнай і дзеля гэтага паказаны спраўцы падзелу. Гэрманія пабіта, пазбаўлена калёній, Эльзас-Лётарынгіі і Пазнаня. Аўстрыя як слушна яе называлі Маскалі „ласкутная імпэрыя" распалася па сваім складовым часткам. Расея ня можа вылязці з таго балота, которая сама зрабіла. Польшча прылажала „братнюю" руку да падзелу Беларусі, цела нашай Бацькаўшчыны, разрэзана на дзьве часткі, народ кінуты „братнімі народамі" у нэндзу матэрыяльную. Тут мы бачым што дарога, каторай ідзець польскі шовінізм надта нябязпэчная і што такой палітыкай Палякі не здабудуць прыхільнасьці Беларускага народу, а скарэй назаўсёды яго адпіхнуць ад сябе. Аднак трэба заглядацца на справу рэальна. Палякаў і Беларусаў вяжуць супольные інтэрэсы эканамічныя і палітычныя, тым больш ім патрэбна прыхільнасьць беларускага народу, што не сягоньня, заўтра прыдзецца стачыць бой з усходам і захадам. Пад усходам я разумею Расею, ці то камуністычную, ці нат дэмакратычную, пад захадам Нямеччыну і кожны з гэтых народаў зьяўляецца найгоршым ворагам беларускага і польскага народу. Каб не было позно папраўляць абмылкі, тым больш, што адраджэньне беларускага народу ідзе шыбкімі крокамі ўперад і хутка можа ён паўстане да свайго незалежнага палітычнага жыцьця, а мо нат захоча адудзячыць за крыўды і зьдзек.

Аднак нас, моладзь, не павінны запужаць гэты уціск і праследаваньне, мы павінны моцна стаяць і згодна працаваць за сваю народную справу, мы павінны ўсё злажыць на аўтар Бацькаўшчыны, бо вялікая і адказная праца ляжыць на нашых плячох.

Нашым дэвізам, — дэвізам моладзі беларускай, ёсьць словы паэты нашаго Андрэя Зязюлі:

Да самага скону ўсякім прымусам
І сілі прыгону, скажу: „Беларусам
Навек астануся, сваей уласнай волі
не здраджу ня колі".

**Франук Маркотны.**

# З вершау Мі—Чэ.

* * *

Мне хочацца жыць,—
Ня плакаць,— ня ныць, —
А жыць каб будзіць,
І будзіць — кабы жыць...
Ненавіджу цямніцы —
Мне ня трэба граніцы
Патрэбен простор,
Сярод раўнін, альбо гор...
Я раўніны прайду
На горы ўзайду
Усей сьвет абайду
І радасьць знайду...
Мне хочацца сьмеху,
Раздольля — уцехі —
Да не будзе памехі
У піру удалом.
Разгуляй - гуляй маладзец
Разнесі - несі удалец
Каб усей сьвет затрэшчаў
Каб радасьць пазнаў...
Мне хочацца жыць
Ня плакаць, ня ныць —
А жыць і будзіць
І будзіць — кабы жыць.

## Цямніца.

Праклятая цямніца!
Як у клетцы мечацца арліца
так я мечуся ў ей...
Забіта воля
Цясніць —няволя
І сэрцэ усё сціскаецца мацней.!.
Але зламлю я яе
І ўцяку я ад яе;
У далёкі край на волю на прастор.
Калі-ж ты згінеш, прападзеш,
калі-ж зламаешся, памрэш
праклящьце я пашлю
табе ў ўкор...



# СЯРОД ПРАЎДЫ І ФАНТАЗЫІ...

Есьць розы белыя і чырвоныя...

Першыя, — сваімі кволымі, лёгкімі лісткамі і дзіўным прыгожым пахам захопліваюць чалавецкую душу і напаўняюць яе радасьцю веданьня нязразумелага і нявядомага...

Вялікія пры сваёй скромнасьці; боскія пры якойсьці дзявоцкай нявіннасьці, яны сьмяючыся косам гарачага сонейка і пацалункам вясёлага ветрыка, моўчкі растуць і хаваюць ад няскромных вачэй вялікую і сьвятую тайну—сымбаля чыстасьці...

Людзі называюць яе розаю—Думак...

Есьць розы чырвоныя...

О, гэта дзіўныя розы!..

Сваімі, як бы нейкімі шалёнымі лісткамі, яны, працягваючыся на сонку тысячамі коляраў, разліваюць па цэламу сьвету свае хвалі агромністыя—дзіўных пахаў і сваім пурпурна — рубінавым як кроў вянком, дразьняць думкі, родзячы дзіўныя хаценьня...

Яны растуць ў дзікіх, запушчаных садох, дзе бадзяюцца фантанстычныя цені дрэваў, дзе, як у зачарованым царстве, ўсюды бачацца таёмныя вобліки і абразы, і сьмела кідаюць з пагардай свае ўзгляды на ўсенько навакол...

У сярэдзіне высокай травы і няпраходнага зялёнага царства, як гвязды зіхацяць усім, а ў цёмныя ночы расказваюць сьветам казку аб тым, чаго ня было і чаго ня будзець...

Людзі назвалі яе — розаю Шалу.

Яе, як і белую стварыла сівенькая, старэнькая Вечнасьць...

. . . . . . . . . . . . . . . .

У адным, вагромністым садзе які стварыўся у працягу многіх сталецьцяў, дзякуючы ўсё таму самаму вечна маладому і стараму Часу — расьлі дзьве розы: — Чырвоная і Белая... — Яны былі адным, што рабіла прыгожым той сад і старыя дрэва, высака цягнуўшыяся да неба, з цікавасьцю паглядалі няраз на зямлю, каб пабачыць і нагаядзецца тымі дзіўнымі, такімі кінутымі кветачкамі, якія расьлі у нізу, сярод кустоў і травы...

Ім было дзіўна неяк бачыць, тут, сярод зялёнасьці іх нейкія іншыя коляры, — таму што апрача іх ніякіх кветак больш ня было, — і здзіўлена думалі аб розах, шкадуючы іх; другія-ж захопліваліся іх прыгожасьцю. Адзін толькі дуб магутны, пад якім расьлі розы, які ў працягу свайго доўгага, доўгага жыцьця ён быў самым старым дрэвам у садзе, як быццам, не сьвядома разумеў гэтыя кветкі і часамі, цяжка ўздыхаючы, сваімі старымі, як жыцьцё галінамі, моцна шкадаваў а немагчымасьці зразумець незразумелае...

Ишоў час, праходзілі сталецьця, і той Час, які ўсё пасоўваўся ўперад, знаходзіў што раз то новыя формы быцьця, якія тварыла Жыцьцё і стварыўшы прынасіла і астаўляла у гэтым старом, дзіўным садзе.

Калісьці, калі прачхнуўшаяся сонка, працягваючы свае вочы на ўсходзе, і зачырванеўшаеся ад фантатыстычных сноў, з радасьцю выглядала з сярабрыстых воблакаў, калі ад яго шчасьлівага вобліку, засьмяяліся сьмехам шчасьця — розы і ўся дрыгацеўшая жыцьцём і цягнуўшаяся да неба зялёнасьць ў садзе, — зрабілася тое дзіўнае і незразумелае, аб чым доўга, — доўга шапацелі кусты і няздаволенаківаліся галіны старога магутнага дуба...

І зрабілася гэта так неспадзеўкі, так незразумела, што замоўк ад гэтага і ручаёк, які гаманіў штосьці і аб чымсьці траўцы ля берагоў і шоўкавая, кволая тая трава і вясёленькія лісьця, забаўляючыяся з ветрам...

Усё змоўкла і замёрла...

Гэта прыходзіла Каханьне... Яно прыйшло скульсьці, з таго боку саду, ў постаці нязвычайна мілага Юнака і цягнучымі да сябе вачыма Дзеўчыны...

Яны схіліўшыся да сябе йшлі нячутнымі шагамі і любоўна глядзелі сабе ў вочы...

Сваімі ўзглядамі яны бачылі ўсё няведамае ў душах сваіх і з радасьцю аддыхалі ў абставінах каханьня...

Гэта каханьне ўлівало ў іх кроў пачуцьцё сьвятое гармоніі і ім хацелася зліцца ў адно, вечнае, заўсёды шчасьлівае...

І косы сонка знайшлі іх і залілі сваімі хвалямі, дайшлі да сэрца і напоўнілі яго вялікім экстазам радасьці каханьня.

Яны йшлі...

Захопленыя гэтым нябывалым вобразам, маўчалі дрэвы, схіліліся кусты і ніжэй скурчылася трава...

І зрабілася тое...

У парыўку свайго пачуцьця, захопляны ім Юнак абачыў розы.

Яны ня зьдзівілі яго, яны ня папягнулі сваімі колярамі, а апьянілі сваім пахам...

Ен пачуў у сабе нешта новае, незразумелае.

Яны захапілі яго і ён сарваў іх...
І аддаў сваей каханцы...

Так згінулі першыя розы...

— — — — —

І так пачалася рэвалюцыя..

— — — — —

— — — — —

II.

. . . . . . . .

Яна прыйшла...

Доўга, страшэнна доўга, праходзіла яна сярод жыцьцёвых бур па цярноваму шляху быцьця і змучаная цяжкай дарогай вякоў,—урэшце прыйшла прыгожай і гордай паходкай у жыцьцё чалавецтва.

Яна была маладая і прыгожая, як раньняя Юнасьць...

Яна была адважная і гордая, як дрэўні Эллін...

Яна была нявядома, таёмна і вечна загадачна—як душа Чалавека,—і заманчыва—дзіўная,чаруючая,—як Жанчына...

У малінава—чырвонай мантыі, прыаздобленай рубінамі і пэрламі чалавечых слёз і цярпеньня — яна прыйшла як царыца:—вялікая і магутная.

Яна прыйшла у сьвет пад гром вопляскаў і пад гукі песьняў з высака паднятай галавой, раўнадушна ступаючы праз трупы жыцьця і мора крыві людзкой,—прыйшла пераможная з лаў-

сэрцы,—адышла боязна аглядаючысь, — як злачынца,—адышла у вечнасьць: — блеснуўшы і згасшы...

Нядоўга была яна сярод чалавецтва і нядоўга вабіла яна думкі і сэрцы людзей...

Недоўга яна натхняла паэтаў, пісаўшых у чэсьць яе дыфырамбы, сонэты, ноктурны...

— бо.

У чалавеку прачхнуўся зьвер, — зьвер дзікі, первабытны, наводзячы страх і жах па чалавецкую мысьль.

Ен стаў змагацца з роўным сабе; зьвярыныя інстынкты прабудзіліся ў яго душы і вялізарны эгаізм перамог сэрцэ...

Ен стаў зьверам.

Пашлі войны, забойствы, растрэлы...

Людзі баролісь за ўладу...

Смага ўлады ап'яняла іх душу, сэрцэ, мозаг і ўнасіла ў жыцьцё якуюсьці дзікую, вакхічаскую пляску страсьцей і інстынктаў...

І людзі пачалі падаць ў бяздоньне...

Тады прйшоў Цар-Голад...

С халодным, бязумным усьмехам сьмяротнай іроніі, вольным поступам прыйшоў Ен у сьвет і з рогатам упіўся у душу і цела чалавека...

У жудасным маліставаньні сталі корчыцца няшчасныя ахвяры, панапрасну завучы ў—падмогу, падмогу ўсясільнаго, бязконечнага хлеба...

Дзікі, душу разьдзіраючы сквіл і голас у жудаснай сымфоніі гукаў—ляцяць і гаснуць у прасторы, і ў бязсільлі тасклівым прападаюць у таемнай далі

Яна прыдзе...

Яна прыдзе няпрыметна, нявідна, як мысьль...

Але прыдзе, як Мадонна, вялікая і святая у сваёй прастаце...

Яна прынясе з сабой вялікія і святыя ідэалы каханьня, яна пакажа чалавецтву новыя шляхі, якія павядуць у вечнае, нязменнае царства праўды ..—і новая сутнасьць новы абраз жыцьця, адкрыецца перад чалавечым вокам...

Гэта будзе абраз Міласьці і Праўды...

Гэта будзе абраз, які падвышае чалавечы дух, які зробіць яго вянком тварэньня, нясьмяротным і вечным...

Гэта будзе абраз, намалёваны гэньяльным маляром у парыве нябеснага натхненьня, у якім ня будзе ні хварбаў насільля, ні крыві, — ні варожасьці ні ненавісьці...

І запануе тое, аб чым нявыразна марылась чалавецтву...

Запануе тое, што было пачаткам незразумелым у чалавецкай душы, што было нязьдзесьнянай марай, што было фантазыяй думкі гэньяльных адзінак...

І запануе сьветлае, праменнае быцьцё чалавецтва;—яно зробіць чалавека магутным вечным, кахаючым жыцьцё, а не такім, што баіцца яго, — і тое аб чым толькі апаведаюць дзіўныя, нязвычайна прыгожыя казкі...

І прыдзе Радасьць...

Так будзе...

**Л. Леўскі.**

Вільня, травень, 1922.



# „Развіццё палітычнае думкі ў Беларусаў.“

*(Лекцыя п. Луцкевіча).*

У нядзелю 22 траўня гэтага году п. Луцкевіч прачытаў лекцыю па зьместу: „Разьвіцьцё палітычнае думкі ў Беларусаў.“ Зьмест бязумоўна надта захопліваючы, бо гэтаж як ні як тое, у чым выказалася наша змаганьне за свае правы жыцьцёвыя.

Лектар сперша даў агульны агляд прынцыповых формаў разьвіцьця тае думкі. Падзяліў ён яго на тры галоўныя пэрыяды: 1) пэрыяд шляхоцка — рамантычны, 2) пара адраджэнская і 3) пэрыяд формы камуністычнае.

У першым пэрыядзе бачым зусім сьвежыя адгалоскі „нядаўнае мінуўшчыны“ — імкненьне да Польскае дзяржаўнасьці. I калі пасьля 1831 г. шмат палякаў апынілася на эміграцыі ў Парыжу, трафілася там між імі многа і нашага „краёвага“ шляхоцтва. Стварылі яны нат „Саюз Беларуска-Літоўскі.“ Выказвалі там думкі свае на адносіны зямель беларускіх да магчымае новае Польшчы. Разумелі яны гэта, як найвялікшую лучнасьць з даўняю „Каронай.“ Але дзякуючы і гэтаму ўжо большасьць Палякаў пачала глядзець на іх надта крыва, чуючы тут нейкі сэпаратызм, ці якіясьці лятуценьня аб маленькай незалежнасьці. — Тое самае было на сваім грунце, такія самыя пагляды і тут панавалі.

Калі аднак у другой палавіне XIX веку ў цэлай Расеі пачаліся масавыя мужыцкія рухі, на Беларусі пачынаецца нейкая перамена. Селяне, Беларусы, пачынаюць грунтавацца ў нацыянальнай сьвядомасьці. I зусім зразумела, што для іх традыцыі Польшчы былі чужымі, яны глядзяць на сялян, Расейцаў, услухаюцца ўжо стуль на лёзунгі. Лёзунгі ставілі там мэты перад усім сацыяльнага вызваленьня, здабыцьця правоў агульна-чалавечых. I першыя пачаткі новае думкі—гэта барацьба за нацыянальнае і чалавечае „я“. Пасьля аднак пачынаюцца думкі і з боку абставін грамадзкіх: барацьба за земства. Гэтыя скромныя жаданьня выклікалі ўсё-ж такі варожыя адносіны ураду расейскага. Далей бачым думка „самаўпраўленьня“ зьмяняецца чымсьці большым — жаданьнем аўтаноміі. Аўтаномнасьцю жылі ня толькі Беларусы а і наагул усе паднявольныя народы Расеі. Жыцьцё, якое хутка йшло наперад паставіла новы лёзунг: фэдэрацыю. Гэта мела з боку жыцьцёвага выглядаць: з аднаго боку камплекс „інародцаў“, з другога рэшняя Расея. Дзяржаўнасьць расейская не адкідывалася. I на гэтым пэрыядзе Беларусы затрымаліся даўжэй. Ужо калі ў 1904-05 г.г. пачалася арганізованая праца, яны стаялі на гэтай пляцформе супольна з усімі блізкімі суседзямі. I туды імкнулася ўся праца аж да самага пачатку вайны і рэвалюцыі 1917 г.

Вайна прынясла апрача эканамічных бед і страшэнны „рэжым“ царскі, які болш усяго пачула Беларусь. Вільню занялі Немцы. Большасьць інтэлігэнцыі павандровала ў Расею, дзе ня было ніякае магчымасьці вясьці работу, бо нат слова Беларусь прыказалі выкінуць с лексікону штодзенных слоў. Пад акупацыяй нямецкай было цяжэй з боку эканамічнага, лепш—з палітычнага. Пачалася нанова праца, прышлося зрабіць перагляд і рэвізыю датачасных думак. Стварылася зусім новая канцэпцыя. Вядомы словы Бэтман-Гольвега, аб тым, што ўсе землі даўняе Расеі, назаўсёды для яе прапалі. Беларусы ў акупацыі з гэтым лічыліся. Бачылі адначасна адносіны расейскага ўраду да сябе. Прышлі да праконаньня, што ёсьць магчымасьць стварыць у заходняй часьці Беларусі нейкі Пьемонт, які прыцягнў-бы пасьля і ўсю ўсходнюю. Стварылася ў першыню вялікая думка--дзяржаўнасьці. Дзякуючы розным абставінам, бачым што адраджаецца старая канцэпыя „Бел-Літ.“ дзяржаўнасьці. Творыцца „канфэдэрацыя“ вялікага княства Літоўскага“ Сперша працавалі згодна ўсе нацыянальнасьці нашага краю. Але прышоў 1918 г., пачаўся „флірт літоўска-нямецкі.“ Літоўцы падаліся на ману немцаў. Беларусы ішлі далей сваёй дарогай.

Рэвалюцыя 1917 г. дала магчымасьць усходняй Беларусі пачаць працу. Зьбіраецца „вялікі кангрэс“ беларускі у Менску. Там адразу ня парвалі лучнасьці з Расеяю. Вярнуліся да думкі — фэдэрацыі. Цэнтрам палітычным робіцца Менск. I там бачым вялікі акт 25 сак. 1918. Усходнія Беларусы аканчальна пакінулі лятуценьня федэрацыйныя. Берасьцейскі мір паказаў ім, што гэта магло ім даць. — Вялікая ўстаноўчая грамата кончылася славамі, што любячыя волю народы, памогуць народу беларускаму здзейсьніць свае мары —

стварыць незалежную дзяржаўнасьць. Гэта асталося маной. Жыцьцё паказала што іншае і дзякуючы таму бачым трэці пэрыяд — пара камуністаў.

Бальшавікі, якія ў працягу 1917 і 18 г·г. надта варожае палітыкі трымаліся ў адносінах да Беларусаў (разгон кангрэсу беларускага), пасьля пабачыўшы магутнасьць гэтага руху, зьмянілі фронт свае палітыкі. Бачым, што стварылі яны „Беларускую камуністычную партыю“, у сваіх адозвах і дэкляраыях выразна гавораць а неабходнасьці беларускае дзяржаўнасьці, школы нацыянальнае, беларускае мовы, як дзяржаўнае і г. д. Творыцца „Савецкая Беларусь“, дзе панам і гаспадаром будуць беларускі работнік і земляроб. Гэтак кончыцца беларускае думка палітычная дэмакратычная, а пачынаецца пэрыяд камуністычны.

Які будзець ход далейшы думкі палітычнае, лектар вырашыць ня ўзяўся. Аднак усе мы мусім верыць, што калі ня згубім свае пуцяводнае зоркі, калі будзём трымацца напрамку, які нам даў акт 25 сакавіка, заўсёды дойдзём там, куды імкнуцца нашыя лятуценьня. Бачылася гэта ня раз ўжо ў жыцьці і прыкладам нам тут можэць быць хапяб і суседка наша—Польшча.

Так закончыў сваю лекцыю п Луцкевіч.

Вільня 24.V.-22 г.

С. Дрыгуговіч.

# Вольная Трыбуна.

## „Што мы пачулі“!..

У № 11 „Беларускага Звону“ была зьмешчана стацьця п. У-р ў каторай робіцца ацэнка нашай часопісі. Перадусім мусім падзякаваць паважанаму рэцэнзэнту за яго шчырае жаданьне прыйсьці на падмогу студэнцтву. Пэўна, што маральную падмогу мы заўсёды з падзякай прыймаем ад старэйшага грамадзянства. Аднак з самага пачатку аўтар робіць закіды што да зьместу: «журнал робіць ня зусім прыемнае ўражэньне». Ня уходзячы у палеміку цікава былоб запытацца, што ў часопісі былоб такога, што зрабіла на аўтара „ня зусім прыемнае ўражэньне“—і чаму аўтар калі ўжо загаварыў аб нацыянальным адраджэньні ня прачытаў уважна часопісі. У другім месцы гавора: студэнтам нельга адарвацца ад зямлі беларускай, ад селянскай хлебаробнай гушчы (Наш Шлях) «а вось ад чытаньня журналу ураженьне адваротнае»... Мусім сказаць Вам паважаны рэцэнзэнт, што сапраўды гэта так, мы былі сынамі вёскі і імі-ж астанемся. З другога боку трэба сказаць, што часопісь наша непрадназначана для селянства ў літэральным значэньні гэтага слова, але больш для інтэлігэнціі з селянства, а значыць гэтай натуральнай лучнасьці ня трацім. Што тычыцца нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня, а так сама і «масавага мужычага руху“, то паважаны аўтар сам ня надта разумее сэнс гэтых слоў. Далей аўтар гаварыць, што чуў як дэклямавалі „Над Нёмнам“ і як няпрыемна укалолі слух два радкі:

«Роднага краю тутэйшыя людзі
У скуру чужацкую лезуць жыўцом»

разам з гэтым праводзіць аналёгію да публіцыстыкі у часопісі. Не, паночку, надта мыляецеся—як раз гэта ёсьць ня гістарычная мінуўшчына, а сумная рэальнасьць і што каб гэтак ня было, то шмат бы сіл улілося у наш адраджэнчаскі рух, бо многа каму яшчэ „Вісла ўсьмяхаецца ласа“. а яшчэ больш можа „заплюшчыўшы вочы пруцца к Няве“. Робячы падобную аналёгію ды яшчэ да артыкулу „родная мова—скарб народу“—дык мусім сказаць, што паважаны аўтар зусім пазбаўлены лёгічнага мысьленьня і прост дзіўна гучаць яго словы: „каму, напрыклад, патрэба сёньня даводзіць, што родная мова скарб народу, інтэлігэнту-студэнту, масаваму чытачу-Беларусу“. Так, паночку, гэта трэба даводзіць і зусім вятак, як даводзілі папярэдныя адраджэнцы, бо слушна кажэ паважаны аўтар, зьбіваючы сам сябе, што тады „беларускі рух заховываўся ў нявялічкіх гуртках“, а цяпер ён што раз то прыбірае паважнейшыя разьмеры, і цяпер то як раз трэба гэта даводзіць, бо інтэлігэнцыя беларуская ня толькі ў прыватным, але і публічным беларускім жыцьці ня заўсёды гаворыць сваей роднай мовай. З другога боку атрымоўваецца уражэньня, што паважаны рэцэнзэнт ня чытаў артыкулу «родная мо-

ва—скарб народу“ дзеля гэтага мімаволі прыдзецца даць пэўны да яго камэнтарый.

З самага пачатку артыкулу гаворыцца аб самабытнасьці нашай мовы і аб зьдзеку над ёй адшчапенцаў народу, цалей аб любові да мовы,мова—як адухатварэньня ідэі нашай дарагой Бацькаўшчыны, сьведчэньне Эразма Віттэляга. Далей што мы павінны карыстацца вынятна роднай мовай і ніколі чужацкай, пасьля мова—аблічча душы, а якжа ня сказаць аб нявыкараненым злу, як ужываньне полёнізмаў, русыцызмаў і барбарызмаў, (дадам, што і сам аўтар грашыць барбарызмам, бо ўжывае слова журнал з францускага, калі маем свае славянскае слова—часопісь,) і ці паказаў бы аўтар такія думкі ў сучаснай беларускай літэратуры?„. Кончыцца артыкул прызывам да пашаны радзімага слова. Сьмешна прост робіцца, што аўтар хочэ тут дакапацца гістарычнай мінуўшчыны, калі гэта толкі рэальнасьць і няраз сумная. Далей чытаем „дарэмная праца шукаць у журнале болек нашага жыцьця“. Што хоча гэтым сказаць паважаны рэцэнзэнт няма магчымасьці зразумець. Мо хоча каб студэнты заклалі эс-эраўскую арганізацыю, або грызліся паміж сабой, як старэйшае грамадзянство; не — гэтаго мы ня можам зрабіць, мы нат‘ з эндэкамі знойдзем пэўныя пляцформы супольнай працы, а ня барацьбы, выходзячы з залажэньня, што усё, што будуецца любовью—моцна, а што ненавісьцью мусіць упасьці. Што да твору Пакуцкага, то ён можа і сэнтымэнтальны але ў часопісі павінны быць творы усіх напрамкаў, хоць бы пачаўшы сэнтымэнталізмам і кончачы мадэрнізмам. Урэшці: «Прыпадкова бяз ніякага пляну размешчэньне матэрыялу. Якім чынам папала ўсярэдзіну журнала хронікёрская справаздача аб студэнцкім вечары». Вольна тады будзе нам запытацца якім чынам бібліаграфія «Наш Шлях» трапіла ў сярэдзіну „Бел. Звону“, калі зазвычай бібліяграфія змешчаецца ў канцы.

Прыкладам як гэта зроблена ў Украінскай газэці „Соборная Украіна“ дзе яна, праўда крышку іншую рэцэнзію з‘мяшчаець.

Адзін вучоны сказаў: „кепска таму грамадзянству, дзе няма ніякай крытыкі“, а я пазволю сабе дабавіць што крытыка мусіць быць разумная і безстаронняя.

Ф. .М

# Чаго перапалохаліся?

Калі у самага пачатку пабуджэньня да жыцьця Віленскага Унівэрсытэту студэнты Беларусы пачалі арганізавацца дзеля працы на карысьць сваей многапакутнай Бацькаўшчыны, то ясна сабе уяўлялі у якім напрамку мая быць іх праца, як вучашчайся моладзі. Праца—культурна-прасьветная. І гэта праца адна з найважнейшых, праца, каторая у сяньняшнім жыцьці беларускага народу стаіць у першай чарзе і вымагая вялікага напружэньня усіх інтэлектуальных сіл беларускай інтэлегэнцыі. Праз асьвету народ наш дойдзе да нацыянальнага усьведамленьня, а будучы сьвядомым, здабудзе незалежнасьць. На больш моцныя ногі мы сталі у гэтым вучэбным годзе і калі прыступілі да працы, то трэба было навязаць нам нейкую лучнасьць—з тымі беларускімі арганізацыямі у Вільні, каторыя у сваей працы зьвяртаюць пэўную увагу і на працу культурна-прасьветную. З гары ведалі, што стварэньне нашай арганізацыі будзе няпрыемнай неспадзеўкай для польскай эндэцыі і рэакцыйнага элементу, што і пацьвердзілася рэвізыяй нашага саюзу. Аднак як гэта ня дзіўна і сумна і некаторыя беларускія арганізацыі аднесліся да нас крытычна і з вялікой асьцярогай. Скажу больш, аднесьліся варожа. Давялося нам быць на з‘ездзі беларускім II.XII. м. г., скліканым „Краевай Сувязью“ у справе вырашэньня пытаньня аб далучэньні Віленшчыны да Польшчы. Як відаць мэта зьезду мела палітычны характар, хоць ня выключна. Прыбылі на з‘езд нашы беларускія сяляне. Як моладзі, вышаўшай з вескі, хацелася прывітаць сваіх сярмяжных братоў, хацелася у колькі словах выказаць свае думкі, але праз два дні з‘езду дабіцца слова у прэзыдыуме ня было магчымасьці; ініцыятарамі з‘езду, адзін са студэнтаў, дамагаючыся слова быў пабіты. Зьдзіўленыя сяляне прабавалі рэагаваць ня падобныя факты, аднак, напуджаныя пагрозамі старшыні зьезду п. Аляксюком—змоўклі. Што гэта мела значыць—мы пытаемся? Чаго перапалохаліся? Чаму нам замкнулі рот? Адказ адзін: — страх на грунці палітычным; ня ведалі якой мы арыентацыі. Другі факт, дзе студэнты Беларусы былі няпрыхільна прыняты,—гэта „Беларускі Музыкальна драматычны гурток у Вільні“. Судзячы з назовы арганізацыі, якую працу яна цавінна весьці, большасьць студэнтаў захацела увасьйці сапраўднымі сябрамі гурт-

ка, аднак і тут, амаль ня тоя нас спаткала, што і на з'ездзі склiканым „Краевай Сувязью“. На першым агульным сходзі Бел. Музык. Драм. Гуртка у пачатку г. г., дзе рабіўся даклад з дзейнасьці гуртка, за мінулы год, нас прынялі, але пасьля падумаўшы „Рада Старшынь Гуртка“, склікала другі сход пры зачыняных дзьвярох, першы сход унязважніла і на гэтым другім сходзе студэнтаў з ліку сяброў гуртка выкінула. Чаго тут перапалохаліся? Ці і тут ня ведалі нашай арыентацыі? Непадабалася мабыць нашым некаторым „тоже бѣлоруссамъ“ крытыка з боку студэнтаў у працы гуртка, бо мы на першым сходзе зазначылі, штс павінны зьвярнуць увагу на працу культурна прасьветную, у напрамку беларускім, чаго дагэтуль трудна было дагледзіць. Нам адказалі што «мы молады іх вучыць і зусім ім ня патрэбны». Як бачымо, вельмі сумныя факты з нашай нідалекай мінуўшчыны. Няўцямілі: „Краевая Сувязь і Беларускі Музык. Драм. гурток“, што мы ня палітыкі, а толькі вучні, што наша арыентацыя,— гэта не арыентацыя на Польшчу, Расею, Літву, ці кагось іншага, а арыентацыя на Беларускі народ. Сумныя здарэньні у жыцьці нашым, не дзеля таго, што да нас гэтак адносяцца, што з нас робяць немагчымыя зьдзекі і крыўду свае людзі, Беларусы, а дзеля таго што, як нам здаецца, гэтыя арганізацыі, заняўшыся палітыканствам мала увагі зьвяртаюць на працу культурна прасьветную, а праз тоя у кожным Беларусе, перш за усё, стараюцца угледзіць свайго палітычнага ворага. Калі-б такія здарэньні, барані Бог, мелі у нас яшчэ мейсца, то гэта нас не перапудзіць, бо у Народзе нашым, наша Моц і Вера.

П. А.



## Што нам пішуць.

Пав. сябры! Пасылаю Вам у штомесячнік віленскіх студэнтаў-Беларусаў „Наш шлях“ кароткую інфармацыю аб беларускай студэнцкай працы у Маскве.

І радзімым словам, рукой мазалістай
Беларус упіша на страніцы чыстай
Кнігі ўсіх народаў, важна няўпрымусі
Эру адраджэньня роднай Беларусі.
Янка Купала.

У Маскве, дзе знаходзяцца старэйшыя і лепшыя навуковыя установы, куды імкнецца большасьць беларускае моладзі заграніцай, знаходзіцца каля дзесяці беларускіх студэнцкіх асацыяцыяў, амаль ня пры кожным вышэйшам вучэбнам завядзеньні.

Так вядомы беларускія культурна-навуковыя Асацыяцыі студэнтаў: Пятроўскае Сельска-Гаспадарчае Акадэмія, Каморніцкага (Межавога) Інстытуту, першага дзяржаўнага Унівэрсытэту, Вышэйшай Горнай Акадэміі, Вышэйшых Галіцынскіх Сельска-Гаспадарчых Курсаў, Вэтэрынарнага Інстытуту, Ляснога Інстытуту, Дзяржаўнага Інстытуту Слова імя Валерыя Брюсова, беларуская студыя Маскоўскага художэственага Тэатру.

Беларускае студэнцтва злым лёсам закінутае на чужыну, спатыкаецца паміж сабою і еднаецца для працы на карысьць многапакутнай Бацькаўшчыны. Ня пекна сказанымі у паветры, ці пекна напісанымі на паперы словамі, а сапраўднаю працаю спрыяюць яны свайму гаротнаму народу. Наш край зруйнаваны сусьветнаю вайною, чужынцы забралі наша багацьце і з жабрацкай торбай пусьцілі па сьвеце. Наш народ бедны, забіты, цёмны. За нашы зруйнаваньня, за нашы страткі, мы ня атрымалі, як Бельгія ці Польшча, ні амэрыканскім далярамі, ні ангельскімі стэрлінгамі, ні нямецкімі маркамі. Мы балей, як хто разрабованы і гэта дае нам творчую моц і сілу, заве нас да працы дае надзею на лепшае. І гэта даражэй за даляры, маркі, рублі, бо мы адрадзім сваю старонку, сваю культуры. Гэта мы прызнаем, абвешчаем і будземо рабіць згодна гэтаму. Згуртаваўшыся, мы з вялікім энтузыязмам, з агульным пад'ёмам дружна возьмемся за працу, важна прынясем на аўтар Бацькаўшчыны сваі маладыя сілы і здольнасьці, сьмела выкуем шчасьце гаротнага народу. Цераз 4-5 гадоў у нас будуць тытысячы людзей з вышэйшаю асьветаю, розныя спэцыялісты: аграномы, інжынеры, дахтары і інш., якія пакрыюць край сецьцю школ, культурна—навуковых, культурна гаспадарчых гурткоў і т. д. Іх мэта: культурна—эканамічнае адраджэньне Беларусі. Іх бліжэйшыя чарговыя заданьні—злучэньне народна—гаспадарскай, грамадз—палітычнай, культурна—нацыянальнай і прырода—эканамічнай старон жыцьця Беларусі, прапаганда і пашырэньне ідэі культурна—эканамічнага адраджэньня Беларусі, аб'еднаньне і падгатоўка культурных працаўнікоў, дзеля пляновай і арганізованай працы на Бацькаўшчыне, шырокая культ.—асьветная праца і іншае.

Самаю буйнейшаю і мацнейшаю з гэтых арганізацыяў зьяўляецца Беларуская культурна—навуковая Асацыяцыя студэнтаў Пятроўскай Сельска—Гаспадарчай Акадэміі, якая у сучасны мамэнт налічывае да 150 сяброў. Сярод студэнтаў асабліва шмат уражэнцаў Захадняе Беларусі: Меншчыны, асабліва Случчыны, Гародзеншчыны, Віленшчыны. Асацыяцыя заснована яшчэ ў 1920 годзе і з'яўляецца першай беларускай арганізацыяй студэнтаў.

Высока і моцна дзержыць яна вольны сьцяг беларускага культ.—эканамічнага адраджэньня. Кіраўніком з'яўляецца вядомы дзеяч Гаўрыла Гарэцкі, родны брат пісьменьніка і публіцысты Максіма Гарэцкага. Асацыяцыя карыстаецца вялікай пашанай сярод прафэсуры і усяго студэнцтва і ёсьць аднэй з лепшых, здальнейшых студэнцкіх арганізацыяў, якіх у акадэміі больш 30.

У сьцянах акадэміі вядзе самаадукацыйную працу па беларусазнаўству, чытаюцца лекцыі, даклады, так сама вядзе навукова—высьледчую працу (Вылічэньне народнага багацьця Беларусі) і культурна—асьветную (экскурсіі, беларускія вечары, бібліатэка, хор і т.д.)

За сьцянамі акадэміі пашырае думку беларускага культурна—эканамічнага адраджэньня, сеяць разумнае, добрае, вечнае па беларускай ніве вядзе працу па арганізацыі беларусіх студэнтаў, па скліканьню беларускага студэнцкага з'езду, выданьня бел. журнала для інтэлегенцыі „Маладая Беларусь", а так сама шырокую арганізацыю і грамадзянскую працу.

Асацыяцыя з'арганізавала для сваіх студэнтаў надта сходную практыку у камісар'яце земляробтсва Беларусі. Вядзе падгатавачную працу к экспедыцыі на высьледаваньня народнае гаспадаркі Беларусі пад кіраўніцтвам праф. К. Агапоўскага. Сёлета ставіць цэлы рад колектыўных досьледаў па ўсей этнографічнай Беларусі з лубінам і сарадэляю, распаўсюджывая сельска—гаспадарчую адукацыю і т. д.

Акром гэтага істнуець цэнтровае бюро бел. студ. асацыяцыяў г. Масквы і беларускі студэнцкі клюб, дзе адбыўся цэлы рад лекцыяу і зборышч. Чыталі праф. Расторгуяў «Аб беларускай мове», праф. Пічэта „Заданьне беларускага студэнцтва" і інш. Сьвяткавалі гадавіну успамін беларускага паэты Ал. Гаруна з удзелам песьняра М. Кудзелькі.

У Маскве яшчэ зарганізованы белар. выдавецкі каапературў „Маладая Беларусь" які пачаў выдаваць альманах-штомесячнік пад гэткаю назваю. Першы нумер яго хутка выйдзе з друку. У ім будуць зьмешчаны акром студэнцкіх твораў і допісаў творы вядомых беларускіх пісьменьнікаў Янкі Купалы, З. Бядулі, М. Гарэцкага, а так сама стацьці прафэсароў Фартунатава, Кулагіна і іншых. Першы нумер „Маладое Беларусі" будзе друкавацца у двух мовах, беларускай і расейскай.

**Studio.**

P. S, З хронікі беларускага студэнцкага жыцьця ў вонках Масквы. —

Студэнты Горэцкага Сельска-гаспадарчага Інстытуту (г. Горкі на Магілеўшчыне) моцна і ўжо даўно з'арганізованы у Беларускую сэкцыю студэнтаў Г. С.—Г. І.

Сэкцыя вядзе даволі вялікую і шырокую дзейнасьць. Паміж іншымі выдаецца студэнтамі штомесячнік: „Дні нашага жыцьця," — з вялікім беларускім аддзелам.

Студэнты Менскага палітэхнічнага Інстытуту з'арганізованы у „Беларускай культ.—навуковай грамадзе" і у гуртку „Заходня-беларускага зямляцтва."

Сту энты Магілёўскага інстытуту народнае асьветы аб'едданы ў „Магілёўскім куль.-прасьветным гуртку."

Студэнты Мар'іна-Горскага сельска-гаспадарчага інстытуту (на Меншчыне лучацца ўжо колькі гадоў у „Беларускай сэкцыі."

Студэнтамі Вітебскага Архэалёгічнага Інстытуту і Смаленскага дзяржаўнага Унівэрсытету так сама вядзецца праца дзеля аб'еднаньня ў арганізацыях.

Масква, 1922 травень.

STUDIO.

# ХРОНІКА.

## З нашага жыцьця.

Дзеля таго што зарганізавацца нам удалося толькі перад самымі калядамі і нармальная а бадай больш арганізацыйная праца пачалася толькі у студні месяцы г. г., паважнейшай працы нямагчыма было вясьці; вялася досыць шырокая рэпрэзэнтація Саюзу на вонках, цяпер же з надыходзячымі экзамінамі праца наша аграніччыцца толькі выдавецтвам, часопісі арганізацыяй публічных лекцыяў, каторыя ўжо адбываюцца што тыдзень, устройствам эк-

скурсыяў, вечароў і нарысу пляну працы для сяброў, (на агульнай зборцы) каторыя раз'едуцца па вёсках.

Да шырэйшай працы, як арганізацыйнай, так і навуковай, а нат выдавецкай прыступім з восені будучага вучэбнага году.

— 16 красавіка г. г. была дэлегацыя (кал. Абрамовіч і Петкевіч) ад Саюзу у Начальніка Польскае Дзяржавы Я. Пілсудзкага. Начальнік Гаспадарства надта цікавіўся працай нашага Саюзу, а асабліва выдавецтвам часопісі, каторую прасіў прысылаць.

— 23 траўня, прыезд у Вільню Уладыслава Міцкевіча, сына таго, каторы апеяў на ўвесь сьвет красу нашай Бацькаўшчыны Беларусі.

— 28 траўня у нядзелю у памяшканьні Бэларускай Гімназіі (Вострабрамская 9) а 4 г. п. п. адбылася лекцыя кс. Станкевіча на тэму: „Гістарычныя пачаткі Беларусі і яе самабытнасць".

— У нядзелю 28 траўня у самі Беларускага Музыкальна - Драматычнага Гуртка адбыўся спэктакль-вечарына, на культурна-прасьветныя мэты Саюзу.

Пастаўлена была: I) „Лес шуміць", Караленкі інсцэнізацыя Ф. Аляхновіча.

II Канцэртны аддзел: Беларускі хор (пад кіраўніцтвам п. Стэновіча), і інш.

— У нядзелю і панядзелак 4—5 чэрвеня адбудзецца з учасьцям старэйшага грамадзянства як тож і калегаў Палякоў экскурсія-маёўка ў Трокі.



# З загранічнага жыцьця.

Атрымалі весткі з Менску, дзе Беларусы згуртованы каля трох культурных асяродкаў: 1) Акадэмічнага Цэнтра, 2) Інстытута Беларускай Культуры і 3. Беларускага Дзяржаўнага Універсытэту

## Акадэмічны цэнтр.

Дзейльнасць Акадэмічнага Цэнтру ня гледзячы на нялічкі склад працаўнікоў, развіваецца і дала паважныя вынікі.

Па асобным камісіям гэта дзейльнасць выглядае гэтак:

### Навучна-Тэрміналёгічная Камісія.

Камісія па укладаньню і апрацоўцы беларускай тэрміналёгіі апрацавала тэрміналёгію Элемэнтарнай арытмэтыкі, вышэйшай альгэбры, граматыкі, лёгікі, батанікі, зоолёгіі, апроч таго частка тэрміналёгіі тэорыі славеснасьці і геомэтрыі.

У трох сэкціях камісіі: а) гуманітарнай, б) натуральна-навучнай і в) матэматычнай састаўляюцца тэрміналёгіі псыхолёгіі, правазнаньня, гісторыі, палітычн. эканоміі, дзелаводства, географіі, хіміі, фізыкі, космографіі, мэханікі і іншых навук.

### Архіўная Камісія.

Архіўная Камісія вядзе працы упарадкаваньня архіваў.

### Музэйная Камісія.

Музэйная камісія зрабіла перапіску і праверку рэчаў і інвэнтара Беларускага музэя.

Зроблены крокі па арганізацыі аддзела нумізматікі.

### Пэдагогічная Камісія.

Пэдагогічная камісія апрацавала праграмы для сямігадовых школ. Большая частка праграм надрукавана экспэдыцыі досьледаў Беларускага Народнага Мастацтва.

Экспэдыцыяй па досьледу Беларускага Народнага Мастацтва ў верасьні мінулага году зроблена экскурсія у Слуцкі павет.

У працягу 6 тыдняў экспэдыцыя аб'ездзіла абшар на 40 вёрст ад Слуцка.

Учасьнікі экспэдыцыі зрысавалі а часткай сфатаграфавалі важнейшыя памятнікі беларускай старыны, апроч гэтага зобрана шмат пекных узораў з Слуцкіх саматкальных палатён.

Сябром экспэдыцыі Рэвенскім запісана кала 80 народных песьняў.

Рэляцыі аб працах экскурсіі былі зроблены у Менскім Таварыстве досьледнікаў гістарыі і мінуўшчыны.

### Літэратурная Камісія.

Літэратурнай Камісіяй выдаецца две беларускіх часопісі „Вольны Сьцяг" і „Зорка" апроч таго выдана і выдаецца колкінадцаць беларускіх кніг і плян выданьня беларускіх падручнікаў.

## Беларускі Акадэмічны тэатр.

Беларускай трупай акадэмічнага тэатра часта даюцца спэктаклі з учасьцям хора і балета.

Апроч гэтага прыгатавана шмат дэкарацый.

## Інстытут беларускай культуры.

Галоўным заданьням Інстытуту абследаваньне Беларусі з этнаграфічнага, лінгвістычнага, літэратурнага, мастацкага, культурна-гістарычнага, натаральна-навучнага і географічнага боку. Апроч

гэтых чыста навучных мэтаў Інст. Бел. Культуры будзе мець сваім заданьнем падгатаваць практычных дзеячоў абследаваньня і навучэньня беларускай культуры. Дзеля больш прадуктыўнай працы Інст. Бел. Культуры падзяліўся на сэкцыі, з каторых некалькі надта інтэнсыўна працуюць. Апроч гэтага Інст. Бел. Культуры мае права адкрываць музэі бібліатэкі, архівы, склікаць зьезды, арганізовываць экспэдыцыі для досьледу краю і г. д.

Асабісты склад Інст. Бел. Культуры дзеліцца на сапраўдных сяброў, навучных працаўнікоў сяброў — карэспандэнтаў.

## Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт.

Адчыніўся 30 кастрычніка 1921 г. з 1 лістапада на мэдыцынскім і гуманістычным факультэце ідуць нармальныя заняткі.

Мэдыцынскі факультэт лічыць 280 студэнтаў, гуманістычны 800 чалавек. Пры мэдыцынскім факультэце наладжан анатомічны тэатр на 200 чалавек. Па устройству анатомічны тэатр будзець лічыцца адным з лепшых ня толькі у Беларусі, але нат у Расеі. Прылады для фізычнага кабінэту атрыманы з Масквы. Хімічная лябараторыя тож мае ўсе патрэбныя прэпараты, а рэактывамі забяспечана на 2—3 годы. Апроч гэтага у хуткім часе наладзіцца праца іншых кабінэтаў, як анатомічнага, геолёгічнага і інш.

## Галоўныя Беларускія вучэбныя інстытуцыі ў Савецкай Беларусі.

На тэрыторыі Совецкай Беларусі ў цяперашні час істнуюць і функціянуюць гэткія пэдагагічныя вучэбныя інстытуцыі.

У Менску: 1) Педагагічны Тэхнікум (Пераабражэнская, 31); тэхнікум мае тры курсы па 2 адзьдзяленьня ў кождым і налічвая 480 слухачоў, пры тэхнікуме знайходзіцца вопытная школа. Тэрмін абучэньня 4 гады. Пэдагогаў ў гэтай школі налічваецца 16 чал.

2) Другі пэдагогічны Тэхнікум (Захараўская,—107) Тэхнікум складаяцца з 3 курсаў; лік слухачоў 350, пры ім жа істнуя вопытная школа. Тэрмін абучэньня 4 гады. Лік пэдагогаў — 26 чалавек

3) Курсы працоўных дашкольнаго выхаваньня (Захараўская, 121). Тэрмін абучэньня 1 год, лік слухачоў 100 чалавек, лік пэдагогаў 15.

4) Беларускія 10-ці месячныя вучыцяльскія курсы (Аляксандраўская 32); лік слухачоў 80 чалавек, лік пэдагогаў 15 чалавек.

5) 9-ці месячныя лекторскія курсы (Захараўская, 107), лік слухачоў 60 чал., лік пэдагогаў 18 чал.

6) Курсы дашкольнаго выхаваньня пры Жэноаддзеле Ц. Б. (Хрышчанская, 6). Тэрмін абучэньня 1 год. Кантынгэнт слухачоў складаецца выключна з кабетаў, ад 18 да 25 гадоў лік слухачоў 50 чал., лік пэдагогаў 18 чал.

У месьці Барысаві атчыняны Пэдагогічны Тэхнікум з 4 курсаў. Тэрмін абучэньня 4 гады і 2 гады падгатаваўчаго абучэньня. Лік слухачоў 134 чал, лік пэдагогаў 10 чал.

Апрача таго адчыняны і знайходзяцца ў стадыі арганізацыі Пэдагогічныя Тэхнікумы: ў месце Мозыры, м. Пятрыкаві Мозыроўскаго павету і м. Ігумені.

І наагул у 1922 г. ў Савецкай Беларусі праэктуецца расшырыць сетку пэдагогічных вучэбных інстытуцыяў, даводзячы яе да 9 пэдагогічных тэхнікумаў і 20 пэдагогічных курсаў.

### Мэдыцынскі аддзел.

У Менску істнуюць гэткія мэдыцынскія інстытуцыі:

1) Фэльчарская школа (Захараўская 68), тэрмін абучэньня 3 гады. Па сканчэньню слухачы атрымоўваюць званьне фэльчара; лік слухачоў 250 ч.

2) Акушэрская школа (Захараўская, 68; тэрмін абучэньня 2 гады. Па сканчэньню слухачкі атрымоўваюць званьне акушэркі; лік слухачкаў 115 чал.

3) Дэнтыстычная школа (Захараўская, 68); тэрмін абучэньня 3 гады; лік слухачоў 54 чал.

4) Школа сясцёр міласердзя (Захароўская 65; тэрмін абучэньня 2 гады; лік слухачоў 79 чал.

5) Дадатковыя курсы ротных фэльчароў (Захараўская, 68); тэрмін абучэньня 5—4 месяцаў; лік слухачоў 81 чал.

### Бел. Дзяр. Політэхнікум.

Менское політэхнічнае вучылішча з пачатку 21 вуч. года згодна з пастановаю Гал. проф. Асьв. Бел. функцыянуе як Беларускі Дзяр. Палітэхнікум. У Палітэхнікуме цяпер функцыянуюць спецыяльныя аддзяленьня: інжынерна будаўнічае, мэханічэскае электро-тэхнічнае, культурна тэхнічная, техно-хімічэскае і леснае.

Лік студэнтаў выносіў 629 чалавек.

## *Пісьма у Рэдакцыю.*

I.

Паважаны п. Рэдактар!

Не адкажыце зьмясьціць гэта пісьмо у паважанай часопісі «Наш Шлях» як стаячай мо найбліжэй да спраў асьветных.

Школьная справа у значнай меры залежыць ад абстаноўкі у школьныя прылады, а перадусім у школьныя падручнікі. Апошнія часы Беларускае Выдавецкае Таварыства надта слаба праяўляе сваю чыннасць, ці то з прычын матэр'яльных, ці прост мо дзеля таго што мала чаго ё друкаваць, у той час калі у Радавай Беларусі надта многа зьвяртаюць увагі на выдавецкую працу, бачучы у ёй падставу да разьвіцьця школы. Ужо ад двох месяцай паважаны п. праф. Тарашкевіч маніўся выдаваць беларускі сынтаксіс, але справа і дагэтуль асталася чуткай. Адчуваецца патрэба і у паважнейшай граматыцы, бо першая граматыка п. праф. Тарашкевіча, была добрай і цяпер з паступовым развіцьцём школьнай асьветы, патрэба было-б яе значна пашырыць, да даўшы правапіс і цьвічэньні. Беларускае Навуковае Таварыства вызначыла досыць абшырны плян, але тож мала працуець. Справу матэр'яльную можна было-б палепшыць, выпусьціўшы аблігаціі Выдавецкага Таварыства, каторыя кожны з сьвядомых Беларусоў лічыў бы за абавязак купіць,дзеля падтрыманьня матэр'яльнага становішча Выд. Таварыства. Добра было-б, каб гэты словы ні асталіся голасам у пустыні.

З паважаньнем Марцінкевіч.

II

Паважаны кал. Рэдактар.

Хацелі-б скарыстаць з магчымасьці зьмясьціць у „Нашым Шляху“ сваю гарачую падзяку людзям добрае волі, якія не адказаліся прыйсьці нам з падмогаю у пастаноўцы спэктакля-вечарыны на мэты культ.-прасьветныя Саюзу Студэнтаў Беларусаў ў Вільні. Спэцыяльна прыносім падзяку Беларускаму Музыкальна-Драматычн. Гуртку за бясплатнае карыстаньне з салі, п. Шчаснаму за рэжысыроўку п'есы, п. Аляхновічу і ўсім іншым артыстам, якія бяз'інтэрэсоўна ігралі на вечары.

С пашанай старшыня Саюзу:

**А. Абрамовіч.**

## УКРАІНСКІМ СТУДЭНТАМ ТАВАРЫСТВА „СІЧ“.

Студэнты Беларусы ў Вільні шлюць свае шчырыя пажаданьня карыснай працы дзеля свайго народу.

Дзякуем адначасна за Вашы словы па адрэсу „Нашаго Шляху“.

Мы, Беларусы, верым, што нам заўсёды будзець з Вамі па дарозе. Мы маем мэты аднольковыя: змаганьне за лепшую будучыню нашых працоўных народаў. Мы маем веру вялікую ў свае ідэалы і будзем верыць,што пабачым здейсьняннымі свае лятуценьня. Думаем, што адносіны нашы на гэтым ня скончацца.

З сяброўскім паважаньнем

*Урад Беларускага студэнцкага Саюзу у Вільні.*



Выдавец: Беларускі Студэнскі Саюз. Рэдактар, Б. Туронак.

Рэдакцыя „Нашага Шляху“ с пачаткам чэрвеня пераходзіць на новае памешканьне (Вільня, Віленская 12), куды і просім прысылаць усю карэспандэнцыю.

Рэдактар асабіста прыймаець ад г. 5—7 у в. на кватэры, Скапоука 9—9.



*Зварочваемся да усіх установу і гандлевых інстытуцыяу с просьбаю прысылаць абвесткі.*



## Фонд „Нашага Шляху“

**Ахвяры прысланыя да рэдакцыі часопісі**

| | | |
|---|---|---|
| 1) Знамяроўскі | 10.000 | м.п. |
| 2) Кс. Гэрмановіч | 5.000 | — |
| 3) „ Станкевіч | 1.000 | — |
| 4) „ І. Жук | 1.000 | — |
| 5) Тарашкевіч | 1.000 | — |
| 6) Луцкевіч | 1.000 | — |
| 7) Латышонак | 1.000 | — |
| 8) Грынкевіч | 1.000 | — |
| 9) Дзімітрыеў | 650 | — |
| 10) Красінскі | 500 | — |
| 11) Пяткевіч | 500 | — |
| 12) Туронак | 200 | — |
| 13) N. N. | 200 | — |
| 14) N. N. | 100 | — |
| 15) N. N. | 100 | — |
| 16) Абрамовіч | 100 | — |
| 17) Русецкая | 100 | — |
| Разам | 23.450 | м. п. |

P. S. Рэдакцыя прыносіць сваю шчырую падзяку ўсім прышоўшым нам з матэрыяльнаю падмогай.

Рэдактар: *Рэдакцыйная Каллегія.*

Адказны рэдактар: *Б. Туронак.*